

Хрыстос Уваскрос!

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Нашы на кірмашы → 8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 17 (3285) Год LXIV Беласток, 28 красавіка 2019 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)





# З праваслаўнай кнігай

Музей малой айчыны ў Студзіводах 11 красавіка ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім арганізаваў «Вечар з праваслаўнай кнігай». З дакладамі выступілі гісторыкі і выдаўцы, якія прэзентавалі праваслаўныя выданні на беларускай, польскай і расійскай мовах. Вечарына прысвячалася двум выдатным праваслаўным святарам, звязаным з Бельскам — мітрафорнаму протаіерэю Канстанціну Байко (у 110 гадавіну з дня яго нараджэння) і мітрафорнаму протаіерэю Рыгору Сасне (у 80 гадавіну з дня яго нараджэння). Дарафей Фіёнік (**на здымку**)— галоўны арганізатар мерапрыемства прымеркаваў яго яшчэ да 450-годдзя друкарства на Падляшшы, выдання ў 1569 годзе ў Заблудаве «Евангелля учыцельнага» — першай друкаванай праваслаўнай кнігі на Падляшшы. Адзначалася таксама 180 гадавіна ад вяртання насельніцтва Беласточчыны з уніяцтва ў праваслаўе ў 1839 годзе.

Сабраных на другім паверсе Бельскага белліцэя прывітаў дырэктар Андрэй Сцепанюк. Сярод гасцей мерапрыемства былі благачынны Бельскай акругі мітрафорны протаіерэй Лявонцій Тафілюк, бургамістр Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі, былы дырэктар Бельскага белліцэя Аляксей Карпюк, дырэктар Бельскага дома культуры Альжбета Фіёнік, дачка айца Рыгора Сасны Ала Сасна-Паўлючук, спецыяліст па візантыйскай музыцы Марцін Абійскі, старшыня Фонду імя князя Канстанціна Астрожскага Анна Радзюкевіч і дакладчыкі — Марк Якімюк, які кіруе дзейнасцю Праваслаўнага выдавецтва «Братчык» у Гайнаўцы, прафесар Ірэна Матус з Універсітэта ў Беластоку, Ян Мінкевіч з Катлоў, Іаанна Стэльмашук-Троц з тэатра «Чрэва» і настаўніца праваслаўнай рэлігіі ў Бельскім белліцэі Эва Астапковіч. На вечарыну прыехалі дакладчыкі з Рэспублікі Беларусь — Лідзія Кулажанка і Канстанцін Антановіч з Праваслаўнага брацтва Трох віленскіх мучанікаў, што дзейнічае пры Петра-Паўлаўскім саборы, а таксама Людміла Антыховіч-Валынец з Баранавіч — ураджэнка Бельска-Падляшскага.

Дырэктар Андрэй Сцепанюк паведаміў пра адукацыйны характар вечарыны, якая ў большасці праходзіла на беларускай мове. Звярнуў ён асаблівую ўвагу на святароў, звязаных з беларускім школьніцтвам у Бельску-Падляшскім — айца Канстанціна Байко і айца Рыгора Сасну, аўтарытэтам для цяперашняга і будучых пакаленняў праваслаўных беларусаў. Айцец Лявонцій Тафілюк перадаў словы падтрымкі ў адрас арганізатараў і ўдзельнікаў вечарыны ад архіепіскапа бельскага Грыгорыя. Звярнуў таксама ўвагу на вялікае значэнне праваслаўнай літаратуры дзеля адукацыі і выхоўвання маладога пакалення і на дарозе да збаўлення ўсіх хрысціян. Аднак айцец Лявонцій перасцерагаў перад духоўнымі кнігамі невядомага паходжання, якія могуць пашкодзіць чытачу.

— Айцец Рыгор Сасна пакінуў па сабе вялікую пісьмовую спадчыну, а айцец Канстанцін Байко быў перш за ўсё настаўнікам вялікай маралі і стойкасці ў веры да канца, хаця ведаў, што можа пацярпець. Мы хочам падчас сённяшняй вечарыны асаблівa адзначыць таксама 450-годдзе друкарства на Падляшшы. Першая надрукаваная на Падляшшы кніга «Евангелле учыцельнае» была праваслаўнай кнігай выдадзенай у 1569 годзе ў Заблудаве, але кніга прызначана была для ўсіх хрысціян. Апошняй нагодай да сённяшняй сустрэчы з'яўляецца 180 гадавіна ад вяртання ў праваслаўе з уніяцтва нашых продкаў, якое адбылося ў 1839 годзе па хадайніцтве епіскапа Іосіфа Сямашкі. Тады ў Сафійскім саборы ў Полацку сабор зацвердзіў аб'яднанне Уніяцкай царквы з Праваслаўнай царквой, — гаварыў Дарафей Фіёнік — старшыня Аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах», які ладзіў вечарыну з дапамогай Бельскага белліцэя і Праваслаўнага брацтва Трох віленскіх мучанікаў у Мінску. Звярнуў ён увагу на барэльефы на другім паверсе белліцэя. — Тут знаходзяцца вывы шасці постацей, выкананыя разьбяром Анатолем Турковым у Камянцы, які цесна супрацоўнічае з нашым музеем. Гэтыя постаці спалучаны з гісторыяй Студзіводаў і будуць змешчаны ў «Студзіводскай панараме», якая выконваецца на панадворку нашага музея.

Дарафей Фіёнік выступіў з дакладам «Праваслаўе, беларускасць, рэгіянальнасць — арыенціры навуковай, асветнай і грамадскай дзейнасці айца Грыгорыя Сасны».

— Айцец Рыгор Сасна склаў бібліяграфію па Праваслаўнай царкве ў Польшчы. Яго працы — непараўнальныя. Славутай яго кнігай, якую падрыхтаваў разам з матушкай Антанінай, з'яўляецца аб'ёмісты біябібліграфічны даведнік «Іерархія, клір і працаўнікі Праваслаўнай царквы XIX-XXI стагоддзяў у межах II Рэчы Паспалітай і пасляваеннай Польшчы» (выйшла другое пашыранае выданне). Выдаў айцец Рыгор многа кніг. У іх рэдагаванні дапамагала матушка Антаніна Троц-Сасна. Ад пачатку айцец Рыгор камплектаваў тыднёвікі «Ніва», у якія свайго часу дасылаў таксама свае артыкулы. Гэтыя ўсе нумары «Нівы» і вялікую частку сваёй бібліятэкі перадаў ён музею ў Студзіводах. Музейная бібліятэка названая іменем айца Грыгорыя Сасны. Матэрыяльным помнікам культуры па ім з'яўляецца Музей «Бацькаўшчына» ў Рыбалах, створаны айцом Рыгорам і матушкай Антанінай, які сведчыць пра багатую матэрыяльную спадчыну беларусаў, — распавядаў Дарафей Фіёнік.

Ян Мінкевіч з Катлоў коратка распавёў пра кнігу «Котлы на Літоўскім Гостінцёві», якой з'яўляецца сааўтарам. Марк Якімюк, які кіруе Праваслаўным выдавецтвам «Братчык» у Гайнаўцы, запрэзентаваў «Сінаксарыён» — жыцці святых на польскай мове, а асабліва яго кнігу на месяц май. Рэкамендаваў ён таксама «Тлумачэнне да Евангелля паводле Апостала Мацвея», выдадзенае ў перакладзе на расійскую мову. З дакладам выступіла прафесар Ірэна Матус з Універсітэта ў Беластоку, якая распавяла пра становішча Уніяцкай царквы на Падляшшы напярэдадні яе аб'яднання з Рускай праваслаўнай царквой.

— Палітычныя матывы вырашылі аб заключэнні ў 1596 годзе царкоўнай уніі. Епіскапы і святары, якія яе падтрымалі, не ведалі, што гэтая падзея будзе мець так трагічныя паслядоўнасці. Латынізацыя багаслужбаў, увядзенне догматаў, што Дух Святы ёсць ад Айца і Сына, што рымскі папа не робіць памылак, што ёсць Чысцец, вельмі моцна памянялі Царкву ў бок Рымска-каталіцкага касцёла. Уніяцтва з трыццатых гадоў XIX стагоддзя нельга параўноўваць з Уніяцкай царквой, якая дзейнічае цяпер у Польшчы і захоўвае нацыянальны характар. Перад вяртаннем у праваслаўе багаслужбы на нашай тэрыторыі адбываліся ўжо на польскай мове і латыні, пропаведзі — на польскай мове, уся дакументацыя таксама вялася на польскай мове і ўсё ішло ў напрамку пераходу Уніяцкай царквы на рымска-каталіцкае веравызнанне, — гаварыла прафесар Ірэна Матус, якая сказала аб заслугах уніяцкага епіскапа Іосіфа Сямашкі, які давёў да аб'яднання Уніяцкай царквы з Рускай праваслаўнай царквой.

Супрацоўніца выдавецкага аддзялення Праваслаўнага брацтва Трох віленскіх мучанікаў у Мінску Лідзія Кулажанка выступіла з дакладам «Айцец Плакід Янкоўскі і яго *Запіскі сельскага свяшчэнніка*» і расказала пра кнігі, прысвечаныя аб'яднанню ўніятаў. Канстанцін Антановіч з Праваслаўнага брацтва Трох віленскіх мучанікаў у Мінску выступіў з дакладам пра Фёдара Палачаніна і яго кніжку «Святло сярод ночы. Асновы праваслаўнай веры». З кнігі можна ў даступны спосаб даведацца аб асновах праваслаўнай веры. Адрозніваецца яна ад рускамоўных кніг выдадзеных у Расіі беларускім фонам — у ёй распавядаецца пра іконы Божай Маці ў Беларусі, пра выдатных беларускіх праваслаўных людзей, пра выкарыстанне беларускай мовы ў Праваслаўнай царкве, прэзентуюцца святыя беларускай зямлі.

Тэатр Гайнаўскага белмузея, якога апекуном з'яўляецца рэжысёр і акцёр Іаанна Стэльмашук-Троц, год таму выступіў у Гайнаўцы са спектаклем «Айцец Канстанцін Байко» (пастаноўка паказвалася ў іншых месцах).

— Жыццё айца Канстанціна Байко было драматычным. Вучні стараліся перадаць у спектаклі гэтую драматургію, — заявіла рэжысёр спектакля Іаанна Стэльмашук-Троц і адзначыла важнасць дзеянняў Дарафея Фіёніка па вяртанні памяці аб айцу Канстанціну Байко сярод малодшага пакалення. Спадарыня Іаанна паказала публіцы раней запісаныя фрагменты спектакля «Айцец Канстанцін Байко».

У мінулым прэзентацыя матэрыялаў пра айца Канстанціна Байко некалькі разоў адбывалася ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім. Настаўніца праваслаўнай рэлігіі Эва Астапковіч разам з ліцэістамі займалася апрацоўкай матэрыялаў пра айца Канстанціна Байко.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**





# Велікодны фельетон-2019 з Беларусі

Даўно гэта было. Я тады толькі пачынаў пісаць фельетоны для «Нівы». І добра памятаю, як мне тэлефанаваў перад святам Светлага Хрыстовага Уваскрэсення рэдактар тыднёвіка беларусаў Польшчы Яўген Вапа ды тлумачыў, што там ад гарадзенскага аўтара хацелі б даведацца беларускамоўныя чытачы па другі бок мяжы ад таго месца, адкуль той аўтар нешта крамзоліць сваім графітавым алоўкам.

Вядома ж, хацелі б даведацца як у Гродні святкуюць Вялікдзень. У які колер яйкі фарбуюць, калі асвячаюць, з якім настроем ідуць у царкву, і з якім з царквы дахаты. Хто там у хаце за сталом, што там на стале. Ля якой іконы знаходзяцца асвечаныя тыдзень таму вербачкі і чым яны ўпрыгожаны. Ну і ўсё такое падобнае хацелі б даведацца чытачы «Нівы».

Зараз як успомніш, дык сэрца напаўняецца цяплом.

Якія светлыя і натхнёныя фельетоны мы дасылалі з Беларусі!

Беларускае духоўнае Адраджэнне крочыла нага ў нагу з Адраджэннем нацыянальным, і беларусы з другога боку мяжы хацелі цешыцца гэтымі працэсамі разам з тымі, хто быў іх натхняльнікамі і непасрэднымі ўдзельнікамі тут, у Беларусі.

Як бы хацелася і зараз напісаць пра гэта! Але ж...Усё змянілася. І пісаць трэба зусім на іншыя тэмы. Вось так бывае. Пачыналі з таго, з чаго душа радуецца, а зараз пішам пра тое, з чаго яна баліць.

А пра што яшчэ можна пісаць, калі пад час Вялікага посту па прыгожа падрыхтаванай для Еўрапейскіх гульняў-2019 і добра заасфальтаванай Мінскай кальцавой дарозе едуць вялікія грузавікі да верху набітыя павыдзіранымі з Курапатаў крыжамі?!

Крыжы на гэтай зямельцы нішчаць не ў першыню. Руйнавалі разам з тымі крыжамі і цэрквы, і касцёлы, і чалавечыя душы. І людзей нішчылі. Вось і ў тыя Курапаты везлі іх бартавымі машынамі, а людцы ў тых машынах да апошняга спадзяваліся, што зараз раскрыецца памылка і іх адпусцяць дахаты, да дзетак, да сям'і. Яны ж нічога кепскага не зрабілі. Таму і не маглі прыняць ні чалавечымі эмоцыямі, ні людскімі мазгамі, што зараз іх усіх перабʼюць ды паедуць за новай партыяй людзей, каб перабіць і тых усіх да аднаго. Не прымала такога сцэнарыя ні чалавечая псіхіка, ні людская свядомасць, ні душа, ні розум. Паўставалі ўсе чалавечыя пачуцці супраць таго, што вочы бачылі! Не верылі вачам сваім людзі!

Таму і не ўцякалі ад расправы, што не верылі ў гэтую жудасць, якая не можа быць, бо не можа быць ніколі. Спадзяваліся да апошняга. Нават пачуўшы за плячамі стрэл і прыбліжэнне кулі да патыліцы, і тады спадзяваліся. Бо немажліва паверыць было ў тое, што рабілася! Бо рабілі гэта таксама людзі! Хай сабе іншыя, але ж людзі! Не могуць жа людзі такога рабіць!

Немажліва паверыць і зараз у тое, што робіцца ў Курапатах. Але і зараз людзі кіруюць тэхнікай, што выкарчоўвае памяць і пашану да нявінна загінулых, людзі агучваюць тую тэхніку ад іншых людзей, людзі прыводзяць аргументы пра тое, што не тут і не так мусіць будавацца Народны мемарыял, людзі тлумачаць, што іншыя людзі паставілі тут крыжы незаконна, людзі затрымліваюць нязгодных з імі людзей і цягнуць у суд, дзе іх судзяць зноў жа людзі...

Людзі, апамятайцеся!

Пагадзіцеся, што гэта так добра, калі аўтар напярэдадні такіх вялікіх перадсвяточных дні піша пра тое, як людзі святкуюць Пасху. Якія ў іх традыцыі, чым яны адрозніваюцца па мясцовасцях, чым падобныя, якія спяваюць святочныя песні, як цалуюць крыж...

І як шануюць продкаў. І сваіх родных, і тых, каго несправядліва закатавалі, у тым ліку і ў Курапатах. Шануюць і ўзгадваюць для таго, каб ніколі больш не паўтарылася гэтае зверства. Таму схіляюць галовы перад крыжам у трапяткой хвіліне маўчання.

Крыжоў на беларускай зямлі не стане менш, колькі б іх не нішчылі. Я пра крыжы памяці і пашаны. А таксама пра крыж, як галоўны сімвал Хрысціянства. І яшчэ пра крыж, як сімвал прыналежнасці нас, беларусаў, да вялікай агульнаеўрапейскай сям'і.

А гэтая беларуская зямля і яе лёс ужо самі па сабе вялікі крыж. Крыж, якога аніяк не зруйнуеш.

І заўсёды знойдуцца людзі, якія паставяць чарговы крыж у гонар гэтых каштоўнасцей.

І паставяць крыж, у гонар і памяць знішчаных крыжоў.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Якія спецыялісты?

Паказанне Расіі праслаўтага фака, што спрабуе зрабіць ПіС, настойваючы на ідэі пракапання Віслянай касы, магчыма, слушнае. Але і няслушнае. Слушнае, таму, што «фак» належыцца Расіі за пастаяннае перашкаджанне польскім суднам у доступе да адкрытага мора праз адзіны выхад з заліва, размешчаны, на жаль, у памежнай зоне РФ. А няслушнае таму, што сама ідэя перакапання касы з'яўляецца экалагічна, эканамічна і палітычна вельмі спрэчнай. ПіС надалей не мае намеру адмовіцца ад сваёй авантурнай ідэі, спасылаючыся на аўтарытэт спецыялістаў, якія красамоўна даказваюць сваю праваіту.

Іспанскі мысляр XX ст., Хасэ Артэга-і-Гасэт, прадказаў ужо 80 гадоў таму, што наша тэхнакратычная, але недальнабачная цывілізацыя будзе хутчэй спрыяць вузкім ведам, чым шырокапалосна-гуманістычным, спалучаючым разрозненыя веды ў адзінае цэлае на аснове фундаментальнага пытання чалавецтва: хто мы ? Ён прама назваў прадстаўнікоў першай катэгорыі «варварамі». Дарэчы, у томе сваіх выдатных эсэ «Паўстанне мас» па-прарочку прадбачвае той бунт. «Масай» назваў ён усіх тых, што «нават не ведаюць пра існаванне цывілізацыі, [якія] проста выкарыстоўваюць яе, як быццам гэта проста прырода». Значыць, большасць з нас. Гасэт меў на думцы бяздумны натоўп, значыць, гнуткі і здатны для маніпуляцыі чалавечы тлум. І да яго, на яго думку, звяртае свае палітычныя мэты кожная ўлада. І там, дзе палітыка, самыя лагічныя аргументы саступяць ірацыянальным ідэалагічным імпульсам, якія лёгка разварушваюць чалавечую масу. Уладзе застаецца толькі адно: перанакіраваць не натуральна бязмэтную энергію на свае ўласныя ідэалагічныя або палітычныя мэты. І для гэтага найбольш прыдатныя спецыялісты ўзброеныя аўтарытэтам... спецыялістаў.

Спецыялістам у галіне воднай гаспадаркі і ўнутранага воднага транспарту з'яўляецца пан Грубарчык, кіраўнік урадавага ведамства аднайменнай назвы. Ён спрыяе ад імя сваіх палітычных заступнікаў праекту будаўніцтва так званага Воднага маршруту E 40. Гаворка пра ажыццяўленне натуральнай рачной сеткі — ад украінскага Херсона на беразе Чорнага мора да Гданьска — фарватэру даўжынёй 2000 км з неабходнай сістэмай шлюз, плацін і вадасховішчаў, якія забяспечвалі б належны ўзровень вады на ўсім шляху. Асноўная частка трасы быў бы Бакавы канал або жолаб некалькі метраў у шырыню і глыбінёй некалькі метраў — рыфлены ў зямлі і паралельна да рэк. Меў бы ён пачынацца на мяжы з Беларуссю ў ваколіцы Брэста і з фінішам на Віслe. Гэты жолаб, даўжынёй ад 80 да 100 кіламетраў, меў бы падмацоўвацца водамі Буга, з відавочнай паслядоўнасцю парушэння яго бягучай перадачы, сілы току і масы вады, што, хутчэй за ўсё, прывяло б да структурнай засухі ва ўсходняй Польшчы. У верхнім зліцці Буга на беларускім і ўкраінскім баках ускосна пагражаў бы экасістэме рэк Піны, Прыпяці і Дняпра. Аднак гэта інжынерная думка — ідэя, якой ідэалагічны фон з'яўляецца працягам даваенных мар пра Польшчу Міжмора — у асяроддзі ПіС усё яшчэ вельмі жывая. Цяпер яе абрэзалі да альянсу дзяржаў, мяжуючых у паласе ад Чорнага да Балтыйскага мораў; вядома, пад кіраўніцтвам Польшчы, з удзелам Украіны, Літвы, Латвіі і Эстоніі, а ў будучыні, магчыма, і Беларусі. Гэты саюз быў бы трэцяй палітычнай сілай у Еўропе. Ну, як мроя — дык мроя... Да канца. Але тут зноў жа ПіС спасылаецца на спецыялістаў, якіх аўтарытэтнае трызненне спрабуе пераканаць масу палякаў, што гэта адзіны слушны кірунак на шляху Польшчы да належнай ёй Магутнасці. Артэга-і-Гасэт так піша пра «спецыяліста»: «Ён не ёсць мудрым, бо ён невук ва ўсім, што не тычыцца яго спецыяльнасці; але ён і не дурань, бо (...) вельмі добра ведае свой невялікі ўчастак сусвету. Трэба сказаць пра яго, што ён разумна-дурны. Гэты чалавек супраць рэчаў, у якіх не разбіраецца, не прымае пазіцыі невука, але, наадварот, ставіцца да іх з ганарлівай самаўпэўненасцю кагосьці, хто з'яўляецца вучоным».

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Велікодна-школьная мітусня

Велікодная падляшская адметнасць у гэтым годзе праяўлена ў сваёй поўнай красе. Толькі тыдзень каляндарнай розніцы паміж святкаваннем Вялікадня католікамі і праваслаўнымі ўводзіць усіх нас у прадоўжаны цыкл святкаванняў. Да гэтага доўгія майскія выходныя плаўна пачынаюцца пасля трэцяга дня Вялікадня ў сераду, а заканчваюцца пятага мая Правадной нядзеляй успамінання продкаў. А на дэсерт шостага мая, у панядзелак, маем вельмі папулярнае ў нас і прыгожае веснавое свята Юрыя. Адным словам — сплецене поснай духоўнасці Вялікага тыдня ў праваслаўных з радасным ужо прайшоўшым Алелуя ў католікаў і свабоднымі ў сувязі з гэтым святочнымі днямі дае многім магчымасць сарганізавання двухтыднёвых веснавых канікул. Для адных гэта суцэльнае свята духу і цела, для іншых — галаўны боль па прычыне як сарганізаваць працу сваіх фірм у такое супадзенне вольных ад працы дзён.

А ў дадатак на нашых вачах пачала буяніць і ўладарыць красуня вясна, якая вечнасцю сваёй прыгажосці не дазваляе нам заставацца абыякавымі на магутны кліч прыроды і чалавечых інстынктаў. Усё амаль Падляшша пачало камбінаваць, якім чынам выкруціцца ад працы гэтымі днямі і акунуцца ў вандроўках з водарам вясны і зямлі. Некаторыя не чакаюцца ў падтрымліванне чарговых экуменічных свят на Падляшшы, а адразу звальваюць у замежныя вандроўкі.

Яшчэ больш радасці ад свабодных дзён маюць зараз вучні, якім у сувязі са страйкам настаўнікаў яшчэ перад гэтым перыядам дакінулі звыш тыдня вольных дзён. Дзе і калі ўпісаліся тады выходныя рэкалекцыі, належныя вучням гэтымі днямі, я зусім разгубіўся. Менавіта таму, што ў многім духоўны катэхетычны персанал абодвух веравызнанняў забяспечыў бесправблемнае правядзенне экзаменаў гімназістаў і васьмікласнікаў таксама і ў нас на Беласточчыне. Большыя нервы і стрэс вымушаны перанесці ў гэтым годзе матурысты, якіх экзамены маюць пачацца шостага мая. Але ці настаўнікі прыпыняць забастоўку, каб класіфікаваць абітурыентаў у тэрміне да дваццаць шостага красавіка і такім чынам дапусціць іх да матуральных экзаменаў? Пабачым.

Са сваёй былой вучнёўскай і настаўніцкай практыкі спачуваю проста маладым людзям і іх бацькам, што апынуліся ў ролі заложнікаў польскай, племяннай палітыкі. А іхняя бастуючыя настаўнікі, выглядае на тое, сталі наіўнымі пешкамі ў перадвыбарчых разборках у Польшчы. Патрэбны назарэз комплексны аналіз і далейшая рэформа школьнай сістэмы. Ізноў, пасля такога бою будзе ў рэальнасці адкладзена ўсімі палітыкамі на бліжэй неакрэсленую будучыню. А казламі адпушчэння застануцца, вядома, настаўнікі, якія, здаецца, крыху самі забыліся, што школа гэта месца, якое павінна вучыць перад усім... усіх думанню.

У выніку шматгадовай хваробы сённяшняй адукацыі ў Польшчы хопіць паслухаць час ад часу адказы на апытанкі цяперашніх студэнтаў наконт агульных гуманітарна-матэматычных, ці грамадскіх ведаў пра сваю краіну. Гэта ўжо не смешнае. Тады, глядзеўшы ў катэгорыях нейкага чорнага гумару, спакойна нейкім міністэрскім распараджэннем можна ўмоўна прысвоіць ганаровае званне бакалаўра ўсім выпускнікам пачатковых, васьмікласных школ, а магістраў і інжынераў — усім абітурыентам сярэдніх школ, якія не закончылі перад пачаткам рэфармавання асветы ў дзевяностых гадах мінулага стагоддзя. Бо напэўна яны адказалі б на большасць пытанняў пастаўленых сённяшнім студэнтам.

«Такія будуць Рэч Паспалітыя, як моладзі хаванне» — як папугаі гадамі паўтараюць палітыкі і асветныя чыноўнікі крылатыя словы з шаснаццатага стагоддзя Яна Замойскага, выдатнага тадышняга палітыка і каралеўскага саветніка. Не ў адной школе гэтыя словы красуюцца ў цэнтральным месцы, часамі з памылковым надпісам, што іх аўтарам з'яўляецца Анджэй Фрыч Маджэўскі. І ніхто памылку не выпраўляе. Таму менавіта разумныя і дасведчаныя настаўнікі здаўна трапна заўважаюць, што моладзь будзе такая, які прыклад даюць перш за ўсё ўлады і законы Рэчы Паспалітай для сваіх грамадзян.

**Яўген ВАПА**

# З Чыжоў у Шклярскую Парэмбу і Міклашы

Размова з **Любай Казлоўскай** з Міклашоў, у дзявоцтве Саўчук, 1945 года нараджэння, родам з Чыжоў.

**— Ці помніце сваіх дзядоў?**

— Дзядоў па маці не памятаю, бо было мне два з паловай года, калі памерла бабуля Параскева; была яна з Васількова каля Ласінкі. Дзед Андрэй памёр у час вайны на тыф. У Параскевы было многа дзяцей, але выжыла толькі мая мама і ейны брат. Дзядоў па бацьку Васілю зусім не ведаю. Бацька быў прыступай, хаця таксама з Чыжоў: ён са стараны Збуча, а мама з боку Лянева. Бацька быў вельмі кепскі.

**— Як Вы запамяталі сваё дзяцінства?**

— Запамятала вельмі многа, бо мела вельмі цяжкае дзяцінства. Нас было чацвёра дзяцей: Іван з 1935 года, Верка з 1937, Генё з 1943 і я. Бацька пакінуў нас і адышоў да суседкі, малодшай за маму, меў з ёй двое дзяцей — сына і дачку. Забраў усё, і коней. Мачаха пастаянна ганяла нашу маму і нас. Бацька страляў да нас з вінтоўкі — хацеў нас забіць. Калі ўзнік калгас, быў яго прадсядацелем, пасля солтысам — вялікая шышка ў вёсцы. Мачаха вокны нам біла і я з мамай часта хадзілі пяшком у Орлю на пастарунак міліцыі; у Чыжах не было пастарунка, а пасля быў у доме бацькі.

Памятаю, што калі была малою і прыходзіла з мамай у Орлю, то мы заходзілі ў пякарню жыда Ізбуцкага (перажыў вайну, бо быў у Чырвонай Арміі — М. М.) Мама купляла мне піражкі, такія смачныя булачкі. У будынку пякарні была крама, адразу гарачыя булачкі прыносілі. Калі зойдзем у пякарню, то кажу: „О, піражкі ляжаць, купіце мне”. Там было вельмі добрае печыва.

Пільнавала мяне старэйшая сястра Вера. Помню, што пакідала мяне пры лаўцы паміж вялікімі камянямі, каб не ўцякла, і ішла да каляжанак. На гайданцы мяне гайдалі, то ляцела куды хоч.

**— Які дабытак пасвілі ў вёсцы?**

— Пасвілі кароў, авечак. Свіней у нас не пасвілі, толькі рвалі ім зелле і насілі ў хлеў. І я рвала зелле і бурачэнне. Мама сама гаспадарыла, наймала вала і дзве траціны часткі аддавала таму, хто араў і сеяў. Гадавала свіней, дзве каровы, курэй...

**— Многія хадзілі басаног?**

— Басаног я хадзіла ўвесь час, бо не мела ў што абуцца, так бедна жылі. Зімою ў школу не хадзіла, бо не мела абутку, толькі летам. Мама мела часанкі — валёнкі з воўны і галёшы да ўпраўкі ў гаспадарцы, а калі ўжо вернецца ў хату, то сястра абувала або я. А калі не, то ў саміх шкарпэтках па панадворку бегалі. У той час тут усюды можна было рабіць валёнкі, не каралі за гэта, хаця ў вёсцы быў пастарунак міліцыі.

**— Школа ў Чыжах?**

— Была падставоўка, сем класаў. Было многа дзяцей, вучылі ў школьным будынку і ў яшчэ дзвюх хатах, бо не змяшчаліся. З чацвёртага класа вывучалі беларускую мову, вучыліся ўсе, вучыла пані з Лянева, а яе муж быў млынаром з Белавежы. Кіраўніком быў Кульчакевіч.

**— Ці ў Чыжах быў калгас? Ці ўсе ўступілі?**

— Калі ўзнік калгас, не ведаю, я ў ім працавала дзіцём. Мусова было ісці ў калгас, бо зямлю забіралі. І мама брала мяне ў калгас, каб днёўка была.




Люба і Сцяпан Казлоўскія

Але ў Чыжах былі такія, што не пайшлі ў калгас. І нічога ім не зрабілі, яны аралі і сеялі. Хто меў вялікую гаспадарку, той не пайшоў у калгас; гаварыў, што не аддасць зямлі і не пойдзе. Толькі яны вялікія падаткі плацілі. А электраток усім правялі. Мая мама не абсталявалася электратокам, бо не мела грошай, а і хата была старая, саломай крытая і баялася тае „тычкі”. Было ў нас два газнікі на нафту.

Мая сястра пасвіла авечак у калгасе, але не падабаўся ёй той занятак і ў пятнаццаць гадоў выехала, была моцнага складу цела. Знаёмая забрала яе на працу ў санаторый у паўднёва-заходняй Польшчы; яна пазней выйшла там замуж, муж быў з Львуўка-Шлёнскага.

Брат паехаў у пэгеэр у Голдап, зарабіў грошы і вярнуўся ў Чыжы, купіў ровар, касцюм. Сюды прыехаў адзін з Вроцлава і сказаў брату, што там патрабуюць рабочых. І брат, у якога скончыліся грошы, нікому не кажучы, паехаў з ім. Працаваў на чыгуначных будовах арматуршчыкам. Там астаўся і там памёр.

Як распусцілі калгас то сарганізавалі сельгасгуртоk. Усім вярнулі палі, саджанцы садовых дрэў людзі выкопвалі і перасаджвалі да сябе.

**— Як адбывалася Ваша вучоба? Як праца?**

— Хто хацеў, мог ісці вучыцца далей і тады даязджалі аўтобусам са Збуча. Хто ішоў у ліцэй, хто ў прафвучылішча, хто прыватна вучыўся, за аплатай. Я асталася дома. У Чыжах людзі мелі вялікія гаспадаркі, гектары добрай зямлі, у кожнага па чацвёра коней. І ў нас было дзевяць кароў, малако вазілі ў злеўню. Вазілі па шэсць дваццацілітровых бітонаў — на ровар або тачкай. Спярша было так, што забіралі малако і давалі парагоны, пасля злеўня адбірала толькі смятану, а малако вярталі — расходавалі свінням або самі спажывалі.

Я ў Чыжах пільнавала дзяцей: у доктара Глінскага, Тэтэркі, Галёнкі, у кіраўніка школы. У чатырнаццаць гадоў пайшла пільнаваць дзяцей у Беласток.

**— А як Вы пазнаёміліся са сваім мужам, ён з Міклашоў?..**

— Пазнаёміліся на забаве ў Чыжах, на Спленне ў 1964 годзе. Сцёпа быў ужо тады год у войску. А я тады жыла ў Беластоку, працавала санітаркай у Ваяводскім шпіталі. Пасля выехала ў Шклярскую Парэмбу каля чэхаславацкай граніцы. Шлюб узялі тут, а туды выехалі разам. Але недзе пасля паўгода вярнуліся ў Міклашы — Сцёпа не хацеў, а я нават сёння таго шкадую.

**— То як жылося здалёк ад родных мясцін? Якімі былі тыя „вернутыя землі”? Дадам, што і я таксама нейкі час жыў каля Вроцлава.**

— Там было зборышча людзей, многа немцаў. Тады там ніхто з новых пасяленцаў не будаваўся. У Вроцлаве многа людзей размаўляла па-нямецку. А каля Балеслаўца, дзе была мая сястра, былі самі сілезцы. Мая гаспадыня, у якой я кватаравалася, паходзіла з Літвы — іх адтуль выгналі і прыехала ў Шклярску Парэмбу.

**— Ці на вуліцах былі яшчэ нямецкія шыльды?**

— Яшчэ крыху было. Аднойчы прыехалі немцы туды, дзе жыла гаспадыня. І агледалі свае ранейшыя дамы і прасілі гаспадыню, каб упусціла пабачыць, што змянілася, бо гэта іхні дом. Дачка гаспадыні ведала нямецкую мову і падслухала, як яны звярталі ўвагу на адзін пакой з нішай у сцяне. Калі ад'ехалі, гаспадыня праверыла тую нішу — у сцяне былі замураваны нямецкія каштоўнасці. І гаспадыня разбагацела.

**— У Вроцлаве ёсць царква св. Мікалая; ці былі Вы там?**

— Так, бывала. Я, Сцёпа, брат едзем у царкву. То бацюшка прыйдзе да нас задаволены і пытае адкуль мы. Мая братава, каталічка, любіла ў царкву заходзіць. А калі пабачыла шлюб у царкве ў Чыжах, то папракала мужа, што не сказаў ёй, што ў нас так файна, бо кароны над маладымі. Брат памёр 14 гадоў таму.

Цяпер Шклярская Парэмба выглядае зусім інакш, хаця я там ужо дваццаць гадоў не была. Калі жыў брат, то мы часта з Міклашоў у Вроцлаў ездзілі, мела я там шмат знаёмых. І мяне яны наведвалі. Зараз тых адпачынковых дамоў там няма.

**— А як вам павялося, калі вярнуліся ў Міклашы?**

— У Міклашах жылі разам з цясцямі. Пасля пабудаваліся ў новым месцы. Працавала пяць гадоў у арлянскай мясарні, пасля ў гасподзе, у вясковай святліцы, у спажывецкім кіёску ў Міклашах. Цягам трох летніх канікул вяла з дачкой Мані Банькоўскай летнікі для вясковых дзяцей у святліцы; ежу прывозілі са школы ў Орлі, ездзілі і хадзілі на экскурсіі, плаціла гміна.

У 1985 годзе пайшла на рэнту, а калі дасягнула ўзрост, атрымала пенсію з ЗУС. У нас адзін сын і чацвёра ўнукаў: тры ўнучкі і ўнук.

**— Ці жыццё на вёсцы памянялася? Як было ў ПНР?**

— Мне і пры камуне не было кепска. Абое працавалі і хату пабудавалі. Наракаюць на камуну, але камуна людзям школу дала, і работа была куды ні зойдзеш — можна было выбіраць дзе працаваць. А што цяпер?

Людзі памяняліся. Зараз з сабою не размаўляюць, сусед да суседа не заходзіць. Памятаю, калі жыла ў Чыжах, то мы, вяскоўцы, хаця і намучыліся ў полі, то яшчэ выходзілі на вуліцу, на лавачку пасядзець, паразмаўляць. А зімою таксама сустракаліся дома, вязалі, вышывалі і спявалі.

Даўней мы тут, у Міклашах, масленіцу і запусты спраўлялі, у святліцы, таксама пабудаванай супольнымі сіламі. Колькі мы пагулялі. Самі арганізавалі — я, Нюта Кубаёва, Валя — усе сужонствы. Было Кола вясковых гаспадынь, а цяпер — куды тыя талеркі падзеліся... Былі і кулінарныя курсы, бо ж бывала, што некаторыя выходзілі замуж і нічога не ўмелі. А цяпер што? Апрача тэлевізара няма нічога да работы. Нікуды не пойдзеш, бо ўсе хаты закрываюць або сабака ў панадворку. Я то і нікуды не хаджу.

**— Дзякую за размову.**

Пытаў і фатаграфаваў
**Міхал МІНЦЭВІЧ**

Пра Вялікодныя ўспаміны пані Любы чытайце на 10 старонцы.

*Дарожныя нататкі*

# Пахаванне незалежнасці Беларусі

Толькі што вярнуўся з чарговага двухтыднёвага водпуску. Такое бывае два разы ў год, але пасля сёлетніх уражанняў хочацца падзяліцца з землякамі сваімі думкамі. Тым болей, што сёлета так атрымалася, што я паслядоўна пабыў у двух нашых сталіцах — гістарычнай і духоўнай (Вільні) і фактычнай (Мінску). І параўнаў пры гэтым (на розных узроўнях) успрыманне беларускае мовы.

Сэрцам адданыя роднае Беларусі людзі адразу разумелі, што з увядзеннем у краіне двухмоўя наша мілагучная мова кінутая на глыбейшы заняпад. Хтосьці меркаваў: ну, гэта на пэўны перыяд, надыдуць і лепшыя часы... Але сёлета я ўжо адчуў нейкае душэўнае здранцвенне. Наша змена, нашае новае, маладое пакаленне... ужо не разумее беларускае мовы. Дый, што Вы ! — скажаце (мне)! Добра, няхай я, як «гастралёр», бываю на радзіме наездамі — у нечым магу і памыліцца. Не, каханенькія. Гэта мне казалі выхавацелі з дзіцячых садкоў, якім даручана ўсё ж даваць дзецям і родную мову. Куды ідзе гэтая краіна і **для каго яна наогул існуе**? Па-маскоўску моладзь «шпарыць» з такім рускім акцэнтам, што не кожны расіянін так здолее. І пры гэтым беларус яшчэ ганарыцца такім маўленнем!!! Нехта заклікае ўжываць і «трасянку» (хаця б на нейкі «пераходны перыяд») — але ж (прабачце!) «трасянка» і паказвае непрыгожасць роднага маўлення, грае «на дудку» якраз тых, хто даводзіць: навошта нам беларуская мова, яна ж непрыгожая. Вось толькі сапраўды — пачуць нам мілагучнасць роднае мовы (не наркамаўкі!) недзе. Усё адрэзалі ад простага чалавека.

Яшчэ адна «навіна». Здаецца, з восені, з верасня, у беларускіх школах (а іх ужо многа «злілося» з дзіцячымі садкамі) быццам збіраюцца ўводзіць пасаду намесніка дырэктара па бяспецы. Зразумела, што такую пасаду будзе займаць прадстаўнік адпаведных органаў. У «прычыны ўвядзення» глыбока не ўнікаў, але сталбцоўская трагедыя на пачатку гэтае вясны быццам магла стаць штуршком да такое ініцыятывы. Дык што: новы намеснік будзе «выварочваць кішэні» вучняў? З сённяшнімі сродкамі масавае інфармацыі на прапаганду бандыцкіх дзеянняў немагчыма пракантраляваць што ў каго ў галаве і што нейкі экстрэмал намерыцца зрабіць і якімі сродкамі. А вось сачыць, каб хто з дзетак не «ляпнуў» што-небудзь супраць краіны-метраполіі — такое цалкам рэальна.

Усё часцей апошнім часам даводзіцца чуць: Беларусь рыхтуецца паглынуцца Расіяй, цалкам увайсці ў яе склад. І чутно гэта на розных інстанцыях. Любы суседні самастойны народ такое вельмі здзіўляе: як можна кінуць уласную хату і ісці жыць невядома куды. Прычым добра зразумела — большаму суседу патрэбная тэрыторыя, а не людзі. Зразумела ўсім, толькі не беларусам. Старэйшы брат іх будзе карміць з лыжачкі, а свой народ пацярпіць. І практычна аніхто з землякоў не задумваецца: страціць незалежнасць лёгка, а вось здабыць яе ізноў — тут без крыві не абыдзецца. Толькі вось другога Кастуся Каліноўскага ў беларусаў няма. І крывёй абараняць ён сябе не будзе. А Каліноўскі беларусам і непатрэбны. «Беларусы — тыя ж рускія...». Але (толькі пры гэтым) руская заўсёды здольныя падняцца з каленяў. А беларус на іх стаяў і стаяць будзе. Зразумела, што з каленяў і далягляд зусім іншы. Пра якую незалежнасць Бацькаўшчыны тут можна казаць? Як можна згубіць сваю родную хату??? Як можна паважаць такі народ, калі ён сам сябе не паважае? Прыкладаў — процьма, вы і самі іх ведаеце на кожным кроку. Тут абмяжуюся адным прыкладам: усе этыкеткі беларускае прадукцыі (для Расіі і іншых) аформленыя толькі на рускае мове, у крайнім выпадку — толькі адно-два словы па-беларуску. Абурае іншае: пад міжнародным індэксам BY уся інфармацыя ідзе толькі на чысцюткай рускай мове!!! Гэта ж фальсіфікат, падлог! І ўсе цярпяць.

Мо ўсё ж задумаемся: і прадстаўнікі Беларусі і сама Беларусь — кім і як мы ўвойдзем у гісторыю? І чаго мы наогул вартыя?

Пётра АМБРОСАВІЧ
15 красавіка 2019 г.

# У Чарнобылі бурліць жыццё



Вольга Юшчэнка з Лубянкі

У горадзе Прыпяць час спыніўся 26 красавіка 1986 года. Горад за непрацяглы час пасля выбуху на атамнай электрастанцыі пакінула 40 тысяч жыхароў. Месца катастрофы бязлюднае і апусцелае — сёння, пасля 30 гадоў, стала яно мэтай для аматараў экстрэмальнага і незвычайнага падарожжа. Турыстычныя агенцтвы прапануюць Чарнобыльскі тур, і многія людзі карыстаюцца гэтай прапановай. Дам'ян Юрчак, прыватна машыніст чыгункі, наведвае Чарнобыль ад дзесяці гадоў і ў яго планах чарговыя паездкі.

**«Ніва»: — Чарнобыль гэта месца катастрофы электрастанцыі ў 1986 годзе, якое вельмі дрэнна нам асацыюецца. Наступствы гэтай катастрофы перажываем па сённяшні, а людзі туды ездзяць. Навошта?**

**Дам'ян Юрчак:** — Мне здаецца, што на дваццатую гадавіну катастрофы зона пачала адкрывацца на людзей звонку. Тады таксама ў інтэрнэце можна было знайсці больш інфармацыі, архіўных фільмаў. Зараз, калі я аглядаю фільмы з часоў да катастрофы, бачу тыя шматпавярховыя дамы, якія зараз аглядаю апусцелымі. Найчасцей ездзяць там пасіянаты — людзі, якія многа чыталі пра Чарнобыль. Некаторыя пэўна ездзяць, каб пашырыць веды пра электрастанцыю. У гэтым выпадку можам казаць пра атамны турызм. Таксама ездзяць асобы, якіх цікавіць прырода, тады можна гэта назваць экатурызмам. Я цікаўлюся апусцелымі месцамі, такімі як Прыпяць. У гэтым выпадку можна гэта назваць індустрыяльным турызмам, у скарачэнні *urbex*.



**— Што так Цябе прыцягвае ў зону?**

— Асабіста для мяне гэта проста вельмі цікавае месца, да якога можна дастацца, купляючы звыклы квіток. Можна гэта зрабіць у Польшчы ў адной з некалькіх турфірм, якія арганізуюць экскурсіі. Можна таксама купіць квіткі ў Кіеве, дзе існуе найбольш фірм, якія маюць у сваёй прапанове «Чарнобыльскі тур». Па зоне заўсёды будзе праводзіць цябе гід. У планах арганізаваных экскурсій амаль заўсёды выступаюць сталыя пункты. Наведвальнікі «Нулявой зоны» могуць пабачыць Прыпяць з цэлай яе інфраструктурай (жылыя дамы, дзіцячыя сады, памяшканні, гандлёвыя цэнтры або парк забавак), а таксама сам Чарнобыль з помнікам пажарнікам, якія загінулі пасля акцыі, і галоўнай плошчай горада. Мы таксама часта наведваем ваколіцы Прыпяці і Чарнобыля.

**— А які ўзровень небяспекі для здароўя пасля тыднёвай пабыўкі ў такім месцы?**

— Радыяцыя гэта натуральна з'ява. Нават калі мы сядзім тут, з усіх бакоў маем выпраменьванне. Раней гэта магло табе пашкодзіць, сёння ўжо амаль не. У час палёту самалётам дастаеш большую дозу радыяцыі, чым у час тыднёвай пабыўкі ў Чарнобылі. Значна большай небяспекай з'яўляецца стан будынкаў у горадзе Прыпяць, таму што яны нішчэюць, іх стан з кожным годам становіцца ўсё горшы. Другая справа, зона на працягу многіх гадоў была разрабаваная, хаця гэта больш з украінскага боку. На Беларусі большы парадак, а нават суперпарадак. Мы заўважылі, што там у зоне нават аднаўляюць савецкія помнікі.

**— Ты ездзіш у Чарнобыль ад дзесяці гадоў. Зараз заўважаеш там больш турыстаў?**

— Так, на жаль, аб прысутнасці турыстаў сведчыць таксама смецце. Найлепш ехаць невялікай групай — прынамсі мы з сябрамі так робім. Хаця некаторыя зараз пачалі карыстацца больш экстрэмальнымі прапановамі. Нібыта на ўкраінскіх сайтах можна знайсці нават аб'явы «дзікіх экскурсаводаў», якія нелегальна праводзяць ахвотных па зоне. Пэўна пра гэта многія ведаюць, бо зона стала таксама зручным месцам для рознага тыпу злачынцаў. Апрача таго мы сустракалі гэтак званых «самасеяў» — людзей, якія пасля прымусовага высялення вярнуліся ў свае вёскі. Так як Вольга Юшчэнка з Лубянкі. У Кіеве, туды яе выселілі, на яе паказвалі пальцамі, ставіліся як да пракажонай. Ёй проста надаела, таму вярнулася ў зону. Калісьці ў яе вёсцы жыло каля тысячы чалавек, зараз толькі яна. Ёй пэўна каля 80 гадоў і 10 кіламетраў у краму, жыве без электрычнасці, без вады. Хаця мае свой агародчык, не скардзіцца, а ўжо найбольш цешыцца, калі турысты прынясуць ёй проста хлеб.

**— Экскурсія ў Чарнобыль гэта не проста адпачынак. Напэўна цэлы час памятаеце, што гэта месца велізарнай катастрофы, крыўды людзей. Спадарыня Вольга дзялілася з Вамі сваімі ўспамінамі?**

— Яна часта паўтарала: «Гляньце, тут усё нармальна. Можна тут жыць!». Яна ведае, што такая аварыя мела месца, але яна на сваёй вёсцы не бачыла наступстваў. Бачыла толькі, што ў Кіеве, дзе яе перасялілі, людзі яе не прымаюць, адкідаюць.

**— Яе можна зразумець, а людзей падобных Табе?**

— Мёртвы горад, закінутыя вёскі, незавершаныя будовы, адным словам — сляды раптам спыненага катастрофай паўсядзённага жыцця Прыпяці і наваколля, але таксама дзікая прырода. Я ўпершыню тут бачыў дзікіх коней. Сумняваюся ці недзе ў Еўропе можна іх убачыць. Усё-такі адчуваецца атмасфера жаху. Недалёка ад польскай мяжы мы можам пабачыць на ўласныя вочы апакаліптычны пейзаж з лепшых фільмаў пра вынішчэнне.

**— З пункту гледжання бяспекі паездкі ў Чарнобыль нічога нам не пагражае. Пытанне, аднак, ці з месца трагедыі можам рабіць сабе адпачынкова-забаўляльнае месца?**

— Гэта, верагодна, самая вялікая дылема, калі гаварыць пра Чарнобыль. Рашэнне аб паездцы кожны прымае самастойна. Але перад паездкай напэўна варта даведацца нечага больш пра саму катастрофу, каб не планаваць гэтай экскурсіі як чыста забаўляльную. Аднак штораз больш людзей, якія занадта не цікавяцца гэтай тэмай, пачынаюць наведваць Чарнобыль. Проста не хочуць ляжаць на пляжы, ці ісці ў горы, а свой свабодны час, напрыклад тыдзень, правесці ў іншы спосаб — у зоне. Я гэта разумею.

**— Калі зараз збіраешся ў Чарнобыль?**

— Планую ў верасні. На пяць дзён.

Гутарыла **Уршуля ШУБЗДА**
**Фота Дам'яна ЮРЧАКА**




# Сакрэты гурта „Сакрэт”

Гурт „**Сакрэт**” з Міхалова — адзін з самых вядомых беларускіх гуртоў на Падляшшы. З заснавальнікам, вакалістам, гітарыстам і лідарам гурта „Сакрэт” **Славамірам Лукшай** размаўляе **Юрка Буйнюк**.

**Юрка Буйнюк: — Якія былі пачаткі гурта „Сакрэт”?**

**Славамір Лукша:** — Наш гурт „Сакрэт” паўстаў у 1997 годзе. Я яго заснаваў разам з Мар'юшам Маркевічам у Міхалове. Мар'юш у гурце іграў на гармоніку і на клавішных інструментах. Пасля да гурта дайшлі мой сын Адрыян і мая дачка Юліта. Пасля нашы творчыя дарогі з Мар'юшам Маркевічам разышліся. Пасля дайшоў да нас гарманіст Тамаш.

**— Аказваецца, што „Сакрэт” гэта сямейны гурт. Як вам працуецца на адной сцэне?**

— (*смех*) Вельмі добра. У нас у гурце кожны за нешта адказвае. Супольна выступаем і і памагаем сабе. Мае дзеці надалей хочуць займацца музыкай. Нядаўна я стаў дзядулем і мы з жонкай дапамагаем сыну і нявестцы выхоўваць унука.

**— Адкуль у вас зацікаўленне музыкай?**

— У нас заўсёды было весела. Мая сям'я здольная ў музычным плане. Мой старэйшы на год брат першым стаў іграць на гітары і спяваць. Я падхапіў гэта. Мае дваюрадныя браты таксама ігралі ў гуртах. Сёстры таксама спяваюць.

**— Хто вас навучыў іграць на гітары?**

— Я вучыўся іграць у Доме культуры ў Міхалове. Мой добры сябра Кшысек Грыневіч навучыў мяне іграць на гітары.

**— Вы ігралі ў гурце „Sonet”. Як успамінаеце гэтыя часы?**

— У гурце „Sonet” я іграў на электрагітары. Гурт быў заснаваны Юркам Астапчуком (зараз лідарам гурта „Прымакі” — Ю. Б.). Гэта былі вельмі файныя часы. Разам мы выдалі касету „Białe szaleństwo” (1995 год), а пасля нашы дарогі разышліся. Юрка пачаў вучобу на ўніверсітэце ў Варшаве. Яго брат Марк таксама пераехаў у Варшаву і гурт „Sonet” распусціўся. Пасля паўстаў гурт „Сакрэт”.

**— Хто рабіў аранжыроўкі да касет „Хлопцы-рыбалоўцы”, „Беларусь мая”, „Белая акацыя”?**

— Мы разам з Мар'юшам Маркевічам аранжавалі гэтыя касеты.

**— Хто выдаваў вам касеты? На вашых касетах няма інфармацыі пра выдаўца.**

— Першыя дзве касеты выпусціла беластоцкае выдавецтва Green Star. Ад трэцяй касеты мы выдавалі ў прыватных студыях. Толькі кампакт-дыск „Белы цвет” у 2008 годзе выпусціла нам варшаўская фірма Folk Music.

**— Ад выхаду вашай апошняй кружэлкі мінае 11 гадоў. Калі будзе наступны альбом?**

— Хацелася б запісаць новы альбом, але патрэбны спонсар, бо праца ў музычнай студыі многа каштуе. Зараз няма моды на выдаванне альбомаў, таму што ў інтэрнэце ёсць цэлая дыскаграфія гурта „Сакрэт”. Гурты паўстаюць як грыбы пасля дажджу, многія з іх не маюць паняцця як добра іграць і спяваць. Вядома, тэхніка пайшла наперад і людзі робяць нейкія каверы песень. Ёсць вельмі многа гуртоў і ўсё паўстаюць новыя. Не заўсёды іх чальцы ўмеюць іграць на інструментах.

**— У інтэрв'ю для „Нівы” вы ўзгадалі, што ў вашай хаце бацькі размаўлялі на польскай мове. Ці для вас не з'яўляецца праблемай спяваць на беларускай, рускай і ўкраінскай мовах ? Чаму не спяваеце на польскай мове?**

— Зараз рыхтую кампакт-дыск на польскай мове. Жонка піша мне тэксты новых песень. Бацькі паміж сабою размаўлялі па-свойму, а да нас звярталіся па-польску. Мая жонка — дачка бацюшкі і ў яе хаце гаварылі па-свойму. Для мяне няма праблемы, каб размаўляць па-беларуску. Мы вывучалі беларускую мову ў школах.

**— Як ацэньваеце сучасную музыку „disco polo”, якая гучыць у польскім тэлебачанні і радыё?**

— Я не люблю крытыкаваць, але цяперашняе „disco polo” гэта сапраўды ўжо дзіўная справа. Уваходзіць у студыю вакаліст, які не ўмее спяваць, заспявае прасценькую песню, а пасля на камп'ютары ўсё выраўнеецца і голас гучыць чыста, быццам ён меў сапраўдны талент, хаця ён насамрэч не ўмее спяваць. Такая „зорка” выходзіць на сцэну і спявае з плейбека. Таму вядомыя гурты, напрыклад „Лайланд”, ці мы ўжо не маем столькі канцэртаў як калісьці. Гурты якія іграюць ужывую страцілі сваю марку і рэнамэ з-за сучасных зорачак „disco polo”.

**— У 2005 годзе вы наракалі, што ваш гурт быў дрэнна рэкламаваны гмінай Міхалова, дзе вы жывяце. Ці зараз штосьці змянілася ў гэтым плане?**

— Раней я быў радным гміны Міхалова. Тады з былым бургамістрам нам не склалася супрацоўніцтва. Ад восені 2018 года маем новага бургамістра — Марка Назарку, які вярнуўся на пасаду. Адразу наладзілася супрацоўніцтва. Раней за былога бургамістра былі ладжаны Фолькавыя сустрэчы і мяне нават не прасілі, каб я там з гуртом „Сакрэт” іграў. Не ішло тут пра грошы, але проста пра тое, каб зайграць. Бургамістр Марк Назарка запэўніў нас, што ўсе калектывы з гміны Міхалова будзе прасіць на фэсты і імпрэзы ладжаныя гмінай. І так павінна быць. Напрыклад у Гарадку, восем кіламетраў ад Міхалова, на Сяброўскую бяседу запрашаюць усе гурты з Гарадоцкай гміны. Трэба мець надзею, што і ў Міхалоўскай гміне так будзе.

**— Вы ўзгадалі Гарадок і ў мяне адразу ўзнікла пытанне: чаму гурта „Сакрэт” няма на Сяброўскай бяседзе?**

— Пра гэта трэба запытаць самога дырэктара Юрку Астапчука. Я з ім размаўляў і абяцаў, што нас запросіць. Але нас не просіць. Мабыць, баіцца канкурэнцыі з нашага боку. Нам вельмі прыкра, але ані на Сяброўскую бяседу ці Дні Гарадка ніхто нас не просіць.

**— Як вы ацэньваеце 90-я гады, калі вы выступалі на фэстах, арганізаваных БГКТ?**

— Вельмі прыемна ўспамінаю гэты час, таму што я вельмі люблю іграць і спяваць па-беларуску. Калі былі запрашэнні на беларускія фэсты дык я з ахвотай ехаў. Заўсёды нас прасіла сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч.

**— Якая паводле вас ёсць розніца паміж музыкай „disco polo” і беларускай музыкай, якую іграе менавіта гурт „Сакрэт”?**

— Паводле музыкі няма розніцы. „Disco polo” паўстала з беларускай музыкі. Першыя хіты „disco polo” гэта былі песні перакладзеныя з беларускай мовы на польскую. Беларуская музыка жывая, танцавальная. Калі іграем на вяселлях, людзі просяць зайграць беларускую песню. Тады ўсе танцуюць з задавальненнем.

**— Як вы ацэньваеце беларускія дыскатэкі ў клубах у Беластоку?**

— Калісьці нас туды прасілі, але пасля супрацоўніцтва з арганізатарамі гэтых імпрэз парвалася. Я да гэтай пары не ведаю, чаму нас туды перасталі прасіць. Відаць, другія гурты маюць там нейкія знаёмствы, а да нас нават не звоняць.

**— Як прадаваліся касеты гурта „Сакрэт”?**

— Касеты прадаваліся вельмі добра. Я, не хвалячыся, маю голас да спявання. Калі я ехаў у студыю запісваць новыя песні, дык адзін альбом я запісваў у два дні, а касету запісваў я ў адзін дзень. У музычнай студыі гукарэжысёры здзіўляліся, як я мог у адзін дзень запісаць касету. А для мяне гэта было натуральнае.

**— Дзе можна зараз убачыць гурт „Сакрэт”?**

— Там, дзе нас запросяць, там мы іграем. Найперш вясною будзем выступаць у Міхалове. Я скажу так, што назву свайго гурта я даўно памяняў бы, таму што вельмі многа паўстала гуртоў з назвай „Сакрэт”.

**— Але вы былі першымі з гэтай назвай. Ёсць яшчэ польская дэнс-група „Sekret” і песня „Sama samotna” з 2004 года?**

— Вядома, нас з гэтай песняй асацыююць, а мы ж у рэпертуары не маем польскіх песень толькі беларускія, рускія і ўкраінскія. На кожнай імпрэзе людзі прасілі зайграць песню „Sama samotna” (*смех*).

**— На перадапошняй касеце „Беларус” з 2005 года большасць складаюць песні з рэпертуару гурта „Дубіны”. Ці вы любіце гэты гурт?**

— Вельмі люблю. Тое, што яны выдалі на касетах, дык я гэта ўсё маю ў сваёй калекцыі. Гэта адзіны беларускі гурт, які першы выдаваў касеты.

**— Якую слухаеце музыку?**

— Кожную музыку я слухаю, толькі „disco polo” мне абрыдла.

**— Зараз вярнулася мода на вінілавыя кружэлкі. Ці маеце ў хаце грамафон і вінілавыя грамплaсцінкі?**

— Маю. У большасці гэта рускія кружэлкі і крыху польскай музыкі, але не слухаю. Зараз яны ляжаць запакаваныя.

**— Вельмі дзякую вам за размову.**

Гутарыў **Юрка БУЙНЮК**

## У Дубінах многа драўляных дамоў

Дубіны — самая старая вёска на ўсходняй ускраіне Белавежскай пушчы. Адна з 25 салэцкіх вёсак Гайнаўскай гміны. Гэта прыгожая доўгая вёска-вуліцоўка, якая з аднаго боку спалучаецца з горадам Гайнаўкай. Цераз яе бяжыць ваяводская дарога з Гайнаўкі ў Нарву і далей у Заблудаў. Дубіны налічваюць 338 дамоў і 777 жыхароў (у 2012 годзе — 796 чалавек).

У гэтым вялікім прыгарадным сяле захавалася шмат драўляных дамоў простай архітэктуры. Сярод іх вылучаюцца тыя з шалёўкай ды прыгожа памаляваныя. Яны — драўляныя — найбольш прыязныя для чалавека і, як кажуць, з душой. Найбольш іх па вуліцы Галоўнай — 91. Стаяць і шчытамі, і франтавой сцяной да вуліцы. Некаторыя з ганкамі. Вокны ў некаторых з аканіцамі. Драўляныя дамы перш-наперш з тоўстых сасновых бярвён. Зараз яны пакрытыя бляхай. Сама менш дзесяць хат абабітых сайдынгам. Вуглы дамоў з дэкаратыўнымі элементамі тут рэдкасцю. Ёсць прызабытыя старыя-старыя ды занядбаныя хаты. У іх ужо ніхто не жыве. Пры іх і драўляныя платы драхлыя ды запушчаныя некалі кветкавыя агародчыкі. Сумны выгляд.

Цяпер заўважаецца вельмі малая колькасць дрэў пры дамах. Раней, як памятаю, было іх куды больш. Былі пладовыя дрэвы: яблыні (іх найбольш), грушы, вішні і слівы. Смак дубінскіх яблыкаў мне помніцца і зараз. Ёсць адзін больш агарод з агароднінай, як напамін, што было іх больш у вёсцы. А цяпер будынак пры будынку і месца не хапае. Па агародніну сяляне ездзяць у крамы ў горад. **(яц)**




## З „Нівай” і чытачамі вясной

Вясной жыхары вёсак Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета маюць менш свабоднага часу, каб чытаць кніжкі і газеты. Але ўсё ж кожны нумар „Нівы” і зараз пятнаццаты ад 14 красавіка гэтага года чыталі Вера Клімюк, Ян Зданоўскі, Ірэна і Аляксей Врублеўскія, Марыя і Ян Янелі, Валянціна Самойлік ды Галіна Бірыцкая з Плянты, Марыя і Канстанцін Целушэцкія, Галіна Целушэцкая, Крыстына і Ян Грэсікі, Валянціна Рыгаровіч, Зіна і Люцына Садоўскія, Люба Скепка, Яўгенія Смольская, Зіна Сахарчук, Андрэй Пучынскі, Эва Дзеніс ды Аляксандра і Юрка Ляшчынскія з Новага Ляўкова.

Родны часопіс гарталі Яўгенія Аліфер, Міраслава Балтрамюк і Крыстына Паскробка са Старога Ляўкова. Усе яны сцвярджаюць, што калі б не „Ніва”, яны ўжо не патрапілі б чытаць па-беларуску. Яны найбольш зацікаўлены дописамі з нашых беларускіх вёсак. Хочуць чытаць пра цікавых ды таленавітых людзей, пра іх жыццёвыя поспехі і дасягненні ды ўвогуле, што новага ў сваёй гміне, павеце і ваяводстве.

І так, у красавіку г.г. — што мне вядома — наш беларускі часопіс чыталі жыхары, між іншым, вышэйзгаданых трох салэцтваў (найбольш у Новаляўкоўскім салэцтве) Нараўчанскай гміны. У іх я быў з „Нівай” і гутарыў з чытачамі. Варта дадаць, што „Ніву” з беларускім календаром на 2019 год купілі ў мяне адна жыхарка Новага Ляўкова і двух жыхароў Плянты. Яны мяне прасілі і я неўзабаве (15 красавіка г.г.) прывёз ім з рэдакцыі Нівы”, дзе гэтыя экземпляры з календаром яшчэ былі і ёсць. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі



# Невялікая экскурсія — незабыўныя ўражанні









Надвор'е штораз прыгажэйшае і цяжка выседзець у школьных партах. Пэўна ўжо некаторыя робяць планы падарожжаў на набліжаючыся канікулы. І вельмі добра, таму што, як гавораць, падарожжы вучаць. Аднак не трэба выязджаць па-за межы Польшчы, каб нешта цікавае адкрыць для сябе. А нават часам не трэба выязджаць па-за межы свайго ваяводства! Вось вучні школы ў Залуках наведалі Крушыняны і Пачопак і думаю, што вярнуліся багацейшыя.

З-пад школы мы выехалі са спазненнем, таму што не ўсім удалося падняцца з ложка ў патрэбную пару. Аднак сітуацыю ўратавала настаўніца Ева, якая паехала на сваёй машыне, каб знайсці згубы.

Усе мелі заплечнікі, але гэтым разам перапоўненыя не кніжкамі, а каўбаскамі на вогнішча, усялякімі ласункамі і кабаносамі, якія ў нас асабліва любяць хлопцы. Мы яшчэ не паспелі выехаць з Залук, а ўжо шалясцелі пачкі чыпсаў, упакоўкі салодкіх булачак і цукеркаў.

— Не, зараз гэтага не буду адкрываць. Усё з'ем і нічога не застанецца на зваротную дарогу, — рашуча сказаў Данель.

Набліжаючыся ў бок Баброўнік, некаторыя атрымалі эсэмэскі, у якіх вітала іх беларуская сетка. Мабільнікі перасталі лавіць Wi-Fi, што некаторых абурала. У канцы кожны зміры́ўся з такой сітуацыяй і прасілі, каб шафёр прынамсі ўключыў радыё, аднак і гэтага нельга было зрабіць.

— Радыё тут не працуе, — адказаў шафёр.

Затое вучні самі пачалі співаць песні. Склалася такая выснова, што на занятках беларускай мовы трэба дакладна вывучыць народную песню «Кахана моя».

Крушыняны прывіталі нас дажджом, але мясцовы татарын і заадно экскурсавод спадар Джэміль павёў усіх у мячэць. Некаторыя ўпершыню бачылі святыню мусульман, якія побач з намі на Падляшшы жывуць ужо больш за 600 гадоў. Спадар Джэміль расказаў пра галоўныя традыцыі, звычаі і рэлігію татараў — іслам. Таксама растлумачыў як шмат нас спалучае:

— Гляньце, — тлумачыў спадар Джэміль. — Такі наш Мустафа гэта па-польску Стэфан, а па-нашаму Сцёпа.

Аказалася, што і ў Залуках ёсць «свой» Сцёпа, якога ведае ўся школа. Вучні сапраўды адчулі блізкасць з нашым героем і адважыліся ставіць пытанні: «А Вы елі татара?» – запытала Юлька. Спадар Джэміль еў і вельмі любіць.

Чарговай кропкай нашага падарожжа быў Пачопак з неверагоднай «Галерэяй на ўскраіне Пушчы». Усярэдзіне мы пабачылі жывёл, насякомых і расліны, якія знаходзяцца ў Кнышынскай пушчы. Хаця нельга кранаць экспанатаў Крыст'янэк, убачыўшы зубра, з любоўю гладзіў яго шэрсць. Мы таксама пабачылі соў і сокалаў, якія не маглі б выжыць у натуральным асяроддзі. Ляснік, які праводзіў нас па Пачопку, тлумачыў, што такіх птушак корміцца, напрыклад, куранятамі, бо яны — драпежнікі. Данель хутка пагля́дзеў усе клеткі і з трывожным тварам запытаў у лесніка: «А дзе кураняткі?». Куранят не было, але затое былі сытыя птушкі.

Мы таксама з'елі каўбаскі пры вогнішчы — пасля такой экскурсіі ўсім надзвычай смакавалі. Зрэшты, відаць на здымках як добра ўсе гулялі. Фотаздымкі рабіла Юлька Грэсь, якая прызналася, што ў будучыні хацела б стаць фотарэпарцёркай. Пасля серыі ўдалых здымкаў сказала: «Неўзабаве бацькі купяць мне фотаапарат, тады буду рабіць здымкі для «Нівы» або для Радыё Рацыя!». Трымаем тваё слова: -) А вам усім жадаем таксама ўдалых, хаця невялічкіх, экскурсій.

*Уля ШУБЗДА*
*фота Юлькі ГРЭСЬ*

**УВАГА КОНКУРС! № 17-19**

**Без сякеры і цвікоў збудавалі круглы дом. (Г....)**

**Загадкі з роднай хаткі**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 12 мая 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 13: Нясла гаспадыня ў кошыку 10 яек, а дно ўпала. Колькі засталося? Адказ: «нуль». Загвоздка тут у самым гучанні загадкі, тут лік «адно» гучыць як «дно кошыка». Узнагароды, каляровыя алоўкі, выйгралі Сара Дарпенская, Наталля Петручук, Вікторыя Якімюк, Кацпэр Каліноўскі з Нарвы, Аліўка Банькоўская, Кацярына Мучко з Гайнаўкі. Віншуем!**

# Вялікдзень і валачобнае

Ці хто з вас на Вялікдзень чакае валачобнага? Калі размаўляем з сучаснымі дзеткамі, яны ўжо не ведаюць гэтага смакавітага слоўца. А жаль! Шкада згубіць такі цудоўны беларускі абрад. Валачобнае гэта падарунак ад хросных бацькоў. Яны раз у год абавязаны наведаць сваіх хроснікаў з велікодным падаркам. Раней дзецям даравалі яйкі. Сёння прыносяць ласункі, вопратку, а нават смартфоны.

У нас звычайна фарбавалі яйкі ў чырвоны колер. Дзеля гэтага скарыстоўвалі адвар з цыбульных шкарлупін, так званы цыбульнік. Цыбульнік — натуральная, карысная для прыроды і здароўя фарба. Такія яйкі называюць фарбаванкамі або крашанкамі. Яшчэ бываюць пісанкі — яйкі размаляваныя ад рукі сюжэтамі або арнаментальнымі ўзорамі. На Падляшшы пісанкі «вырабляюць» на Сямятыччынне, а таксама ў падбельскіх Студзіводах.

Сёння вам прапануем беларускія ўзоры для пісанак, прыдуманыя мастачкай Аленай Шалімай. Размалюйце, а пабачыце, якая ад гэтага радасць і натхненне.

Смачнага велікоднага яечка!

**(гак)**




Артур ВОЛЬСКІ

## Вялікдзень

Вялікдзень,
Вялікдзень –
Цудоўнейшы дзень!
Як сонейка ўзыдзе,
Адступіцца цень.
Гэтым днём
Ісус Хрыстос
З мёртвых уваскрос.
Ён цяпер
Глядзіць на нас
З вышыні нябёс.

Хто ў нядолі,
Хто ў бядзе –
Ён да тых ідзе,
Бо шануе нас усіх
Як дзяцей Сваіх.

Ён прыйдзе,
Ён прыйдзе,
Як чысты прамень.
А злодзей,
А злыдзень
Зашыецца ў цень!

Вялікдзень,
Вялікдзень –
Цудоўнейшы дзень!

(*Беларуская народная легенда*)

# Чаму конь ніколі не пад'есць?

У вала такая прырода: ён трошкі пад'есць, ляжа і адпачывае. А конь есць, есць і ўсё галодны. Заўсёды яму мала, заўсёды ён галодны.

А ведаеце, чаму так атрымалася?

Даўно-даўно, калі яшчэ па зямлі хадзіла Божая Маці, ёй трэба было перайсці праз ваду. І яна папрасіла ў каня:

— Перавязі мяне, браток, на другі бераг.

А конь кажа:

— Я яшчэ не пад'еў.

Тады папрасіла яна вала:

— Перавязі мяне, воліку, праз ваду.

Вол адразу падкуліў ногі, каб зручней было сесці на хрыбет. І сказаў:

— Сядайце, калі ласка, перавязу!

Божая Маці ўскараскалася на вала і ён перавёз яе на другі бок ракі. За гэта атрымаў добрую «зарплату»: ён хутка пад'есць і адпачывае. А конь есць дзень і ноч і яму ўсё мала, ён усё галодны, ніколі не пад'есць...

**(гак)**

# Польска-беларуская крыжаванка № 17-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 13-2019:**

Вал, баран, персік, наведанне, серада, качан, ацалелы, парык, вы, бас, пахі. Збан, капа, аса, Ас, вечар, аперацыя, сняданак, рад, вясна, Ева, амін, слых, лакей.

Узнагароды, **наклейкі**, выйгралі **Ася Пяткевіч, Алеся Буткевіч, Юлія Клімчук** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока, **Клаўдзія Ніканчук, Марцін Галёнка** з Нарвы, **Лукаш Дзюбанос, Гектар Стручык, Магда Косцік** з Орлі, **Вікторыя Стэмпа, Блажэй Асіпюк** з ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім. Віншуем!

Ruszenie
Zakątek
Bonzo
Szkoła
Jak
Dzwon
No
Szlak
Busz
Miód
Alan
Strapka
Ja
Len
Noga
Śpiew
Ola
Niedziela
Syn
Awans
Ptak
Jan
Sen
Okno
Ewa

# Чытачы пайшлі з (поўнымі) торбамі

Рэкордны лік публікі, поўныя залы і паўнюткія ўсе прасторы новай беластоцкай Падляшскай філармоніі і оперы — Еўрапейскага цэнтра культуры 12-14 красавіка 2019 года — гэта восьмы Міжнародны кірмаш кнігі і фестываль «На пагранiччы культур», сарганізаваны Фондам «Sąsiedzi». Тысячы кніг і тысячы наведвальнікаў. На працягу трох дзён арыгінальную, аплеценую вінам будыніну наведала амаль 20 тысяч чалавек — дарослых і дзяцей. Людзі чытаюць і слухаюць пра кнігу. Па трыста асоб прыйшло на сустрэчы з праф. Ежы Бральчыкам і Люцынай Кірвіль, Марыюшам Шчыглам, Іаннай Батор. Прагучала тут і **беларуская літаратура** — як штогод, на тым самым месцы, можна было набыць кнігі «Беларускага кнігазбору», «Архе», Янушкевіча, Галіяфаў. Фонд «Суседзі» сёлета выдаў дзве кнігі з новай серыі «Беларуская літаратура» ў прыкладзе на польскую мову — Змітра Бартосіка і Віктара Шалкевіча, пры падтрымцы Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства. Былі госці з усёй Польшчы, бывальцы з усяго свету, а нават з Лондана (Курыс Картэр). Былі сустрэчы з аўтарамі і з выдавецтвамі, літаратурныя майстар-класы, конкурсы з узнагародамі, і вялікія зніжкі на кніжкі — ад 20, а нават да 50-70 працэнтаў. Вандроўкі сярод паліц проста ў лабірынтах завяршаліся радасным паляваннем — з пераможнымі воклічамі дзяцей і дарослых. Сусветная літаратура, але і тутэйшыя тэмы — як у кнізе Анны Раманюк пра Арэшкава. Сорак аўтарскіх сустрэч — невядома якую выбраць, бо большасць праводзілася ў адзін час; іншыя аўтары падпісвалі свае кнігі на стэндах. І 90 выстаўцаў — меншых і большых выдавецтваў, для якіх беластоцкі кніжны фэст з'яўляецца нагодай да прасоўвання сваіх дасягненняў і наладжання кантактаў.

Тысячы аглядаючых, але і тысячы прададзеных кніг — так можна падвесці восьмую Міжнародную кніжную выставу-кірмаш у Беластоку.

— Тут існуе заўсёды ўнікальная атмасфера, і нашы альбомы з іконамі, а нават курсы пісання ікон ідуць як вада, — сказаў Тадэвуш Дэптула з Выдавецтва «Аркады».

— Такіх натоўпаў і такіх цікавых сустрэч з аўтарамі я не бачыла ні на адным такім кніжным кірмашы! — захаплялася Беата Яцкоўская з Выдавецкага інстытута «Знак».

Былі нагоды для паказання сябе беластоцкім аўтарам, такім як **Кшыштаф Гедройц**, які выдаў сёлета том паэзіі «Bierżałowce». Гэта апафеоз мірнага жыцця, нейкага схову, дзе калі ўжо прыходзіцца да сустрэчы з іншым чалавекам — яна невыпадковая. Паэт асцерагае перад згубным перакананнем, што «эйфарыя і шматлюдная згода дазволяць выжыць», таму лічыць, што трэба задаваць пытанні, нават калі няма на іх адказаў. **Кшыштаф Шубзда**, вядомы беластоцкі сатырык, хацеў бы займацца таксама пісаннем сцэнарыяў і кніг. На кірмашы прапанаваў збор сатырычных фельетонаў «O życiu ze śmiertelnie poważnym humorem».

— Я хацеў напісаць кнігу, але мой выдавец, Анджэй Каліноўскі сказаў, што яшчэ зарана.

**Адам Вайрак** і **Тамаш Самойлік** мелі найбольш малых фанатаў, таксама як і **Гжэгаж Касдэпке** (яго творы для дзяцей урэшце перакладваюцца на беларускую мову). Да іх і былі найдаўжэйшыя чэргі па аўтограф, у якія дзеці проста валаклі сваіх бацькоў (відаць таксама, з каго бяруць прыклад — з чытаючых бацькоў і дзядоў). Але былі таксама столікі для самых малых — з драўлянымі адукацыйнымі гульнямі і іншымі атракцыёнамі. Мяне прыцягнула сустрэча з харызматычным мовазнаўцам праф. **Ежы Бральчыкам** і яго жонкай **Люцынай Кірвіль** (была маёй выкладчыцай псіхалогіі). Прафесары прамавалі сваю кнігу «Pokochawszy. O miłości w języku».



■ Генадзь Вінярскі выдавецтва «Кнігазбор»


■ Злева: Мікола Ваўранюк, Зміцер Бартосік, Віктар Шалкевіч

— Кожны раз спадзяемся, што паразмаўляем аб тым, у чым быццам бы разбіраемся, — жартаваў прафесар. — Жонка аб псіхалогіі, я аб мове, а канчаецца тым, што мы абое «на языках». Мы напісалі пра тое, што спрычыняецца да таго, што людзі могуць выказаць сваю любоў і патрабуюць яе выказаць. А што мяне турбуе ў апошні час? Ужыванне слова «uwielbiam». Часам словы замяняюць эматыконы, «лайкі». Я б іх назваў па-свойму — «podobki».

Жартам навукоўцаў і слухачоў не было канца. Прааналізавалі яны ў моўным любоўным плане фрагмент песні дыска-пола, рэкламы, упісаў у штамбухі. Вызывалі гарачую інтэракцыю слухачоў. Не хапае такіх размоў у сям'і, у пачуццях, у навуцы. Таксама з цікавымі асобамі вялі сустрэчы вельмі цікавыя, кампетэнтныя і ззяючыя ведамі і інтэлігентнасцю і сваім талентам вядучыя — Дарота Сакалоўская, Анжэй Байгус, Мілка Мальзан, Катажына Савіцкая-Мяжынская, Мікола Ваўранюк. З рэпарцёрам Яцэкам Гуга-Бадерам сустрэўся пісьменнік і паэт **Міхал Ксёнжэк**, вядомы са сваёй абароны Белавежскай пушчы. Распавядаў пра мастацтва пісання рэпартажу, аб умеласці размовы з людзьмі, аб майстрах рэпартажу. Аб тым, што рэпартаж гэта таксама літаратура, свайго роду пераклад з рэальнасці. «Я люблю слухаць расповеды людзей, бывала, гаварылі мы з людзьмі па 48 гадзін без перапынку. Кожны аўтар, калі нават піша некалькі сказаў, ён піша таксама аповед пра сябе, гэтага нельга пазбегнуць».

Прафесар Чэслаў Адам Дабронскі і Марэк Гаеўскі з Музея войска расказвалі і пра кнігу «Białystok 1920». Прафесар спалаўся на спрэчкі, звязаныя з дзейнасцю яўрэйскага насельніцтва ў час польска-бальшавіцкай вайны ў горадзе.

— Аказваецца, што ніколі не было ніякага працэсу, ніякіх рэпрэсій супраць габрэяў, — сказаў Дабронскі. — Падобна на тое, што гэта паклёп, што зусім не азначае, што былі некаторыя асобныя прыклады. Гісторыкі ў асноўным падкрэслівалі, каб ставіцца да кнігі, выдадзенай пад эгідай «Кур'ера параннага», у якасці прэлюдыі да святкавання стагоддзя бітвы праз год.

У Беластоку не было больш важнай бітвы ў гісторыі горада.

— Беластоцкая бітва ўвянчала поспех Варшаўскай бітвы, цуду над Віслай, — казаў праф. Дабронскі. — Заблакавалі шлях адступлення бальшавіцкай арміі.

Дыскусія, як і сама кніга, выклікала розганалоссе сярод слухачоў.

Не вельмі гаваркі, але вельмі бліскучы, быў Марцін Віха, лаўрэат узнагароды «Ніке» за незвычайную кнігу «Rzeczy, których nie wyrzuciłem». Раней ён апублікаваў «Jak przestałem kochać design». Кожную кнігу ён хоча пісаць на іншай мове. «Рэчы, якіх я не выкінуў» гэта гісторыя пра адыход. «Калі мае бацькі памерлі, памерла для мяне ўсё іх пакаленне, іх мова, іронія, — сказаў Віха. — Мне падабалася іх нежаданне пафасу, нават той факт, што бацька памятаў, у каго ў 1963 годзе быў мапед «Lambretta». У мяне склалася ўражанне, што я запісваю кавалкі свету, пра якія я яшчэ паспеў пачуць, але больш няма ў мяне нікога пад рукой, у каго я мог бы пра гэта спытацца».

Упершыню ўдзельнікі фэсту маглі прыняць удзел у дыскусіі з блогерамі. Запрашэнне на сустрэчу таксама прыняў праф. Ежы Бральчык.

— У нас ёсць падазрэнне, што з кнігамі, як і з людзьмі — нас вельмі шмат, і кожны хоча нешта сказаць, хоча быць пачутым, і блогеры дапамагаюць нам у гэтым, — сказаў праф. Бральчык.

Лінгвіст пажартаваў, што любоў да чытання прабудзіў у ім «Лемантар». Вяртаючыся да блогаў, прафесар параўнаў іх да пісання лістоў.

Сустрэчу з беларускімі аўтарамі — бардамі, пісьменнікамі, журналістамі і незабыўнымі шоўменамі вёў Мікола Ваўранюк. Як жа яны ўмеюць выступіць са сваімі тэкстамі! Проста — шоў цудоўнай беларушчыны!

**Віктар Шалкевіч** піша крэсавай пальшчызнай — захапляліся журналісты беластоцкіх газет.: «Przepiękne, urokliwe opowiadania». Кнігу «Miasteczko G. i okolice» беларускі пісьменнік, бард і акцёр напісаў па-беларуску, будучы ў доме творчасці ў Швецыі, дзякуючы стыпендыі пасла Швецыі ў Мінску. Для польскага чытача пераклаў іх на польскую мову.

— Аказваецца, я пішу пекнай крэсавай пальшчызнай. Я не вучыўся ў ніякай польскай школе, — сказаў Шалкевіч. — Юзаф Мацкевіч Гродна называў «брудным маленькім габрэйскім мястэчкам». Цяпер мая кніга з'яўляецца помнікам людзям, якія там жылі. Сярод апавяданняў з'яўляецца гісторыя беларускіх прыхільнікаў «Чырвоных гітар». Выдання гэтай кнігі вельмі чакала ўдава Кшыштафа Кленчана, пані Аліцыя. Я паслаў ёй апавяданне, яна адпісала, што чакае цэлай кнігі. Я чуў, як у час вяселля дружбанты спявалі «А босман тылько запел плашч». У нас усё было магчыма. У гісторыях я спалучыў асабісты вопыт з літаратурнай фантазіяй. Горад варты таго, каб пісаць пра яго, мястэчка Г. і яго наваколле.

**Зміцер Бартосік** сабраў рэпартажы да хвалюючай кнігі «Быў у пана верабейка гаварушчы» (пераклад Марціна Рэмбача «I miał pan wróbelka, który mówił»; шкада што не запрасілі на фэст перакладчыка). Многія з гісторый, якія ён пачуў — ад людзей, якія стаялі ўжо над магілай, якія раскрывалі сваю балючую праўду.

— Я не хачу сказаць, што я быў як святар на споведзі, але гэта было нешта падобнае. Таму што савецкія партызаны былі неверагоднымі злыднямі. Гэтае пытанне не паяўлялася ў сродках масавай інфармацыі. Усе імкнуліся забыць, прамаўчаць, не шукаць праблемы. Гэта таксама гісторыя пра барацьбу з палякамі, асабліва з уладальнікамі маёнткаў, з габрэямі, — сказаў Зміцер Бартосік. — Беларускаму светапогляду прыклеілі латку, што і марыць толькі пра тое, «каб толькі не было вайны». Гэта галоўны дэвіз беларусаў. А ў жыхара Беларусі слова «вайна» гэта перш за ўсё страх не перад салдатамі, акупантамі, а суседам! Гэта самае страшнае, калі людзі, якія жывуць у суседстве, пачынаюць губляць сваю чалавечнасць. Пішу аб выдаванні яўрэяў немцам, аб беларускай паліцыі на службе ў немцаў. Гэта ўсё праўда, пасля ўсіх гэтых размоў я даў сабе такі зарок — не трэба нічога абагульняць. Немцы, савецкія партызаны, партызаны Арміі Краёвай, тыя дрэнныя, а тыя добрыя — не! Таму што ўсе дрэнныя справы — на іх сумленні. Злыдзень мае імя, і не трэба абцяжарваць іх усіх.

Зміцер Бартосік з цеплынёй успамінаў свой візіт у Крынкі, да пісьменніка Сакрата Яновіча.

— Я памятаю, што вельмі цёпла, мы правялі два цудоўныя дні разам з бясконцымі размовамі, з келіхам, а гісторыя яго жыцця гэтак жа геніяльная, як і яго творчасць.

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**




# Сталіца

У Элк еду поездам. На плошчы перад чыгуначным вакзалам адпраўныя стаянкі аўтобусаў. Мой аўтобус падстаўляюць каля дваццаці хвілін да яго адпраўлення. Калі рушае ў маршрут, здаецца, што машына тая з'яўляецца вялікім акустычным інструментам. Быццам усе часці яе сплянаваны для музычных мэт. Скрыгічуць, скрыпяць, бразгочуць, стогнуць. Па дарозе, каля васьмі кіламетраў за Элкам, мясцовасць Руска Весь; Вікіпедыя: „Prawdopodobnie najstarsza miejscowość w gminie Ełk. Założona w 1376 r. przez Rusinów. Lokację otrzymała w roku 1404. Do dziś można tam zwiedzić pozostałości majątku ziemskiego. W 1920 liczył sobie 600 ha, na terenie tym znajdował się tartak, stajnie i gorzelnia należące do rodziny Juedtz (prawdopodobnie nikt nie ocalał po wojnie)". Нейкіх дваццаць кіламетраў за Элкам стаяў калісь, каля пяцідзесяці гадоў таму, памаляваны на бела праваслаўны крыж; стаіць ён і надалей, толькі моцна пачарнелы. Аўтобус заязджае ў цэнтр гарадка, а там вітае пасажыраў стэнд з паведамленнем, што мясцовасць з'яўляецца вайсковай сталіцай Польшчы...

Ожыш з'яўляецца сапраўды сімвалічнай вайсковай сталіцай краіны. Хто б калісь не служыў у войску, той напэўна чуў фальклорную рыфмаванку, дзе слова „Ожыш" сугучала з фразай, якая абазначала змену стаўлення да вайсковай павіннасці са службісцкага на рэфлексіўнае. Гэтую фразу палічу строга засакрэчанай вайсковай тайнай і прыкрыю яе фігавым лісточкам; яна не сакрэт тым бравым ваякам, якія прынеслі вайсковую прысягу.

Ожыш да 1945 года быў пад нямецкай дзяржаўнасцю, а там аўтобусныя прыпынкі былі заўсёды побач чыгуначных. Так было ў Ожышы, але нядаўна памянялася на такі лад, які даўней панаваў у Варшаве ці Беластоку, значыць галоўны аўтобусны прыпынак апынуўся здалёк ад чыгуначнага, аднак у такім месцы, дзе крыжуюцца галоўныя вуліцы. Але пра гэта крыху пазней.


■ Музейная траншэя




Праеў і я ў Ожышы некалькі гадоў, таму цягнула туды мяне не толькі „сталічная" вядомасць горада, але і крыху сентыментальнай цікавасці: як жа, пасля сарака пяці гадоў ад майго там знаходжання, мясцовасць выглядае цяпер. Рушыў я тады ў напрамку чыгуначнага вакзала. Будынак вакзала, які калісь пульсаваў кругласутачным жыццём, зараз у стане гібернацыі, у стане глыбокай бяздзейнасці. Выхад на пероны загароджаны, адкрыты толькі выхад на рампу, якая нарыхтавана на разгрузку і загрузку ваеннай тэхнікі на эшалоны. Пасажырскі перон даўно пазарастаў усялякімі зёлкамі. Стрэлачная настаўня бяздзейнічае, некаторыя шыбы ў ёй адсутныя...

Чыгунка завітала ў Ожыш адносна позна, бо ў 1905 годзе была пракладзена лінія з Яньсбарка, цяперашняга Піша, якая годам пазней была прадоўжана ў Лец, сённяшняе Гіжыцка. У 1914 годзе праз Ожыш пралягла лінія з Зоньсбарка (Мрангова) у Лык — цяперашні Элк. Пасля Другой сусветнай вайны савецкія інжынерныя часці знялі са шматлікіх здабычных на нямецкай тэрыторыі ліній рэйкі, палічыўшы іх ваеннымі трафеямі. Такім чынам у Ожышы захавалася толькі чыгуначная лінія з Ольштына цераз Мрангова і Мікалайкі ў Элк. Ды і яна закончыла сваю службу пасажырам бадай у канцы XX стагоддзя. І зараз у Ожыш па чыгунцы прыязджаюць толькі эшалоны з вайсковай тэхнікай для вучэнняў на прылягаючым да горада палігоне. Чыгуначны вакзала апусцеў, таму і сэнсоўным было перамяшчэнне і аўтобуснага прыпынку ў іншае месца — у цэнтр горада. Амаль як у Гайнаўцы...

Палігон у Ожышы быў закладзены ў 1890 годзе. Быў ён пашыраны ў 1930-х гадах. Чыгуначныя лініі давалі магчымасць прывозіць сюды войска нават з Кёнігсберга. Тут адбываліся выпрабаванні новага нямецкага ўзбраення, між іншым тут 20 кастрычніка 1943 года сам Гітлер аглядаў выпрабаванні новых мадэляў танкаў. А прускае войска бывала тут ужо з паловы XVIII стагоддзя. Пачатак чарговага стагоддзя быў асаблівa цяжкі для Ожыша, праходзілі цераз мясцовасць шматлюдныя французскія войскі Напалеона, заглядалі сюды і царскія ваякі. А калі побач стаў палігон, то было пабудавана асобнае вайсковае мястэчка, якое за спецыяльным пропускам маглі наведваць цікаўныя турысты.

«Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага» з канца XIX стагоддзя так згадваў пра Ожыш: „Orzysz al. Orzesz, niem. *Arys*, w dok. *Arisz*, *Orsesche*, *Rosisch*, miasteczko na Mazurach, pow. jańsborski, odl. 30 klm. od Leca, nad Strumieniem młyńskim (Muehlenfliess), 1 milę długim, wychodzącym z jez. Orzysz i wpadającym do jez. Terkło. Mstko leży nad szosą prowadzącą z Jańsborka do Leca, posiada kościół ewangielicki, 1306 mk., sąd okręgowy, st. poczt. i telegr. Cztery jarmarki rocznie w lipcu na płótno. Cała parafia obejmuje 4450 Polaków i 1000 Niemców. W. mistrz Konrad v. Erlichshausen dał r. 1443 Wawrzyńcowi Polakowi pozwolenie na lokowanie nowej wsi na 44 włókach chełmińskich, z których 4 sołeckie; oprócz tego nadał mu 10 włók na prawie magdeburskiem, z obowiązkiem jednej służby konnej, w Nowej Wsi (dzisiejsze Sumki na północ od Orzysza). Wś O. należała do komturstwa Ryn i zaliczała się jeszcze w początku XVI w. do parafii w Okartowie. W 1544 r. jednak znajdujemy tu już osobnego księdza, imieniem Macieja. W 1642 r. była wś własnością korony (tak zw. „kammeramt") i wydzierżawioną. W 1726 roku został Orzysz miastem".

У час Першай сусветнай вайны, у 1914 годзе Ожыш заняло расійскае войска, пазней немцы адбілі горад, але руская яшчэ раз туды на коратка ўварваліся. Знішчэнні былі выпраўлены яшчэ ў ходзе вайны. У ліпені 1920 года на Мазурах быў праведзены плебісцыт аб дзяржаўнай прыналежнасці гэтага абшару. Нягледзячы на прыведзеныя вышэй статыстыкі, усе жыхары Ожыша выказаліся за прыналежнасцю да Нямеччыны. Усё ж такі Ожыш апынуўся ў Польшчы пасля чарговай вайны, у жніўні 1945 года.

Характар мясцовасці не надта змяніўся, надалей Ожыш астаўся буйным вайсковым гарнізонам, надалей дзейнічаў палігон. Большасць аўтахтоннага насельніцтва, якая сама не пакінула мясцовасці, была пазней выселена ў Германію. Новае насельніцтва наплывала з прылягаючай польскай тэрыторыі або з Усходу. Таксама разрастаўся гарнізон. І Ожыш атрымаў разыначку, дзякуючы якой слава мясцовасці яшчэ больш узбуйнела: у 1971-1991 гадах быў там славуты на ўсю Польшчу штрафбат, у якім праслужыла каля трыццаці тысяч салдат...

Ад чыгуначнага вакзала кіруюся ў бок „маёй" часці. Цягам некалькіх дзесяткаў гадоў наступілі значныя змены; брама загнута агароджай, за брамай палатквы вайсковы гарадок. Гарнізонны гатэль-інтэрнат, пабудаваны ў канцы 1960-х гадоў, зараз выглядае крыху інакш. Перад уваходам сядзяць пажылая жанчына з мыліцамі; дадумваюся, што там цяпер прытулак для былых вайскоўцаў і іх сем'яў. Будынак Гарнізоннага клуба, пастаўлены ў канцы 1950-х гадоў, зараз знесены, на яго месцы растуць зёлкі. Але мо з дзвесце метраў далей, на іншым будынку, бачу шыльду Гарнізоннага клуба. Мужчына замыкае дзверы, пытаю яго пра ўстанову. Галоўны ўваход з другога боку, там мае працаваць бібліятэка. Ну то я туды. Але дзверы закрыты, хаця ўстанова павінна працаваць. Гэта недзе пасля дзясятай гадзіны дня, калі працоўны дзень набірае разгону, калі непрацоўныя людзі рушаюць за справамі. Відаць, што ў бібліятэку ў той час ніхто не кіруецца, таму асоба, якая мае чакаць чытачоў, таксама некуды рушыла за сваімі справамі...

Заходжу ў недалёкую гарадскую бібліятэку. Ёсць там толькі адна кніга-альбом пра Ожыш. Яшчэ заўважаю штогоднік, якога выйшла два нумары: за 2017 і 2018 гады; у іх матэрыялы з нямецкага мінулага горада.

У цэнтры горада новы будынак ратушы, яшчэ не цалкам здадзены для карыстання. Насупраць яго быў калісь гезсаўскі рэстаран, цяпер там толькі крамы. Кіруюся ў Элцкую вуліцу, разглядаюся за царкоўкай, на якую ў мінулым годзе збіраліся ахвяраванні ў рамках акцыі „Супольная справа". Будынак яшчэ ў ходзе абнаўлення, крыжа на ім няма, але ёсць крыжы з перакосіцай на браме і на абедзвюх дзвярных створках...

Вяртаюся назад. За касцёлам Маткі Боскай Шкаплернай установа, якая называецца Музеем вайсковай гісторыі Ожыша. На даволі абшырным пляцы за будынкам пастаўлены стэнды з інфармацыяй так пра нямецкае мінулае горада, як і польскае. Стаяць танк Т-34 і бранебойная гармата 85 мм, але прадбачваецца ўзбуйненне экспазіцыі.

Ожыш лічыўся ў свой час „зялёным гарнізонам", лясным; мабыць таму і быў там заснаваны палігон і сумежныя часці. Яшчэ ў нямецкі час на паштоўках віднелі надпісы: *Hier halten die Wölfe treu die Wacht, die Füchse sagen gute Nacht*. (Тут караўляць ваўкі, а лісы жадаюць добрай ночы). Такая сталіца...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Вялікдзень даўней у Чыжах

Вялікдзень у Праваслаўнай царкве — сэрца ўсяго гадавога літургічнага цыкла, найважнейшае свята, якое называюць святам свят і ўрачыстасцю ўрачыстасцей. У праваслаўі падкрэсліваецца асабліва значэнне ўваскрэсення Хрыста, якое дало сэнс зямному жыццю. Пры нагодзе велікодных святкаванняў, якія выказваюць радасць ад уваскрэсення Госпада і адначаснага прыходу вясны, спяваюцца шматлікія песні. Праваслаўныя святкуюць Вялікдзень вельмі радасна, лічачы, што разам з уваскрэсеннем Хрыста вяртаюцца ўсе жыватворныя сілы ў прыродзе. Велікодную радасць папярэджвае доўгі і строгі перыяд Вялікага посту, які рыхтуе вернікаў да пасхальнай містэрыі.

Вялікдзень у Царкве ад стагоддзяў не мяняецца, але па вёсках з ходам гадоў свята пастаянна заводзіць іншы стандарт.

Спадарыня **Люба КАЗЛОЎСКАЯ**, у дзявоцтве Саўчук, 1945 года нараджэння, з Міклашоў, успамінае Вялікдзень свайго дзяцінства ў родных Чыжах.

*Цягам сарака дзён посту ўсе пасцілі. Нас было чацвёра дзяцей: Іван, Вера, Геня і я — наймалодшая. Мама тады не давала ніякага мяса. Яйкі давалі толькі малым дзецям. Елі малочнае, але апрача серады і пятніцы.*

*Елі капусту, салёныя агуркі, боршч. Памятаю, была капуста ў галоўках, то абрывалі лісткі і елі з хлебам, з бульбай. А калі не было з чым, то сам хлеб пасыпалі соллю, да таго збожжавая кава „Цыкорыя". Цукру не было, бо не было за што купіць. Мела я вельмі цяжкае дзяцінства, пакінуў нас бацька. Не было гарбаты. Зрывалі ліпавае квецце, сушылі, варылі і пілі; казалі „кашлю нэ будэ". Сушылі таксама мяту і пілі. Але найчасцей была чорная збожжавая кава або з малаком.*

*Яйкі малявалі цыбульнікам або вярбовымі коцікамі, то кідалі каляровую тонкую паперу. А якія харошыя яйкі выходзілі; рыхтавалі вялікую міску яек.*

*У царкву хадзілі на Усяночную, на 23-ю гадзіну; гэта было абавязкова. Была поўная царква людзей, не тое, што цяпер. Файна было. І ў кожную нядзелю хадзілі ў царкву. Мама мне тэнісныя туфлі купіла, то я іх толькі ў царкву абувала. Пазней, калі падрасла, то зарабіла і сабе купіла нейкі абутак.*

*У суботу бацюшка асвячаў пасху. Людзі клалі ў капаньку каўбасы, масла, сыр, пасху, яйкі, і як хто хацеў, то і хлеб. Ніхто не насіў пад крыж у вёсцы, а кожны стаяў на вуліцы перад сваім домам. Бацюшка ішоў па вуліцы і ўсім асвячаў. Плацілі збожжам, ніхто грошай не даваў, бо бацюшка гадаваў свіней, кароў. Таксама плацілі збожжам калі хадзіў па малітве. У Чыжах тады быў бацюшка Васілій (яго зяць згінуў у выпадку на маторы і згінула двое дзяцей — паміж Ляневам і могілкамі).*

*Снеданне: усе сядалі за стол, запальвалі свечку, маліліся. Валачобнае; давалі і гулялі ў „голубкі", было такое карытка або білі яйкамі ў яйка, каб зарабіць яйка. Хаця яек хапала, але ўсё ж за тым валачобным бегалі. А хросныя давалі ўжо валачобнае і цукеркі, а зараз толькі грошы.*

*Таксама Руздво. Пост быў, але не так строгі як пад Вялікдзень, бо можна было акрасіць бульбу скваркамі. Варылі бульбу, былі салёныя агуркі або квашаная капуста; і так елі. Капусту варылі, называлі яе лянівай, таму што без мяса.*

*Калядавалі — дзеці хата ў хату. А такая моладзь то хадзіла толькі да тых, якія пажаніліся і спявалі іхнім дзецям. Гэта не так, што хата ў хату ходзяць. І тады бацюшкі не калядавалі як цяпер. І моладзь мела спецыяльныя песні. І гаспадары давалі грошы, і то больш, бо гэта моладзь.*

*Хадзілі калядаваць з нагоды — калі нарадзілася першае дзіця; калі другое, то не хадзілі. Хадзілі ўжо пасля хрысцін, а пакуль не ахрысцяць, то нельга было ісці ў хату, бо былі нейкія павер'і. А цяпер як толькі народзіцца, то дзіця валачэ ўсім — не дзіва, што дзеці хворыя. Калісь дзеці былі здаровыя! Шэсць тыдняў міне — ідзеш да ўводу і тады можна дзіця ў царкву ўнесці.*

*А калі прыйшла ў Міклашы, то тут было інакш. Інакш размаўлялі чым у Чыжах. Напрыклад, муж кажа „закрый варота", у нас была „брамка". Муж мой кажа „дай пінджак", а я думаю, што гэта такое; у нас гэта „летнік". Я ўжо больш шасцідзесяці гадоў жыву па-за Чыжамі. А ў Чыжах зараз кожная трэцяя хата пустая.*

Запісаў **Міхал МІНЦЭВІЧ**
Фота Міхала МІНЦЭВІЧА

ШКОЛА ТРАДЫЦЫЙНАГА МАСТАЦТВА

# http://trad.by

Творчыя людзі, відаць, могуць праяўляць творчасць у некалькіх накірунках. Калі нехта ўмее пець ці танчыць, знаычыць, хутчэй за ўсё, ён можа і навучыць гэтаму кагосьці іншага. Адным з прыкладаў такой іншай праявы творчасці з'яўляецца „Школа традыцыйнага мастацтва", сайт якой месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://trad.by**.

Выява сайта крыху незвычайная, бо там няма звыклага падзелу на рубрыкі, і каб праглядзець, з чым можна там азнаёміцца, трэба пракруціць мышкай усю выяву. Але першае, што ідзе ў пачарговым прадстаўленні зместу — расповед пра школу, якая існуе з 2012 года. „Гісторыя школы бярэ вытокі ў актыўнай дзейнасці фальклорнага гурта Guda, што існуе больш за 20 гадоў, па вывучэнню спеўнай і танцавальнай культуры Беларусі. За час пошукаў і актыўнай вакальнай і танцавальнай практыкі ўдзельніцамі гурта назапашаны ўнікальны досвед, які дапамагае вучням дасягнуць поспеху ў мастацтве традыцыйнага спеву і беларускага танца. Да вучэбнага працэсу далучыліся лепшыя знаўцы традыцыйнага беларускага танца, нацыянальнага адзення, этнакультуролагі і фалькларысты", — адзначаецца там. Згодна пададзенай інфармацыі, у дадзенай школе навучаюцца не толькі дзеці, але і дарослыя.

Паводле аматараў традыцыйнага мастацтва, іх школа — гэта не толькі сістэма навучання ў азначаных накірунках, але і прывіццё чалавеку каштоўнасцей, якія тысячы год існавалі на беларускай зямлі: захаванне духоўнага і фізічнага здароўя чалавека, традыцыйная сям'я, ашчаднае стаўленне да зямлі, навакольнага асяроддзя, роднай мовы і культурнай спадчыны.

Ніжэй за расповед пра школу ідзе расказ пра спеўнае мастацтва. „Аснову праграмы навучання складаюць абрадавыя песні, найбольш старажытны пласт культуры не толькі Беларусі, але і Еўропы. Спявачкі ўдзельнічаюць у абрадах і святах традыцыйнага календара, а на завяршальным этапе навучання — у канцэртах і фальклорных фестывалях. Цягам года навучэнцы маюць шэраг невялікіх выступаў у коле вучняў і выкладчыкаў школы. Завяршае навучанне выпускны канцэрт, дзе спявачкі дэманструюць спеўнае мастацтва", — гаворыцца ў ім. Калі ж перайсці на спасылку „Чытаць далей", то мы зможам пабачыць як відэа з выступамі спявачак, так і асобныя фотаздымкі, дзе яны тэатральна суправаджаюць свае спевы.

Раздзел „Беларускія танцы" распавядае, што ў школе можна навучыцца такім танцам, як лявоніха, падыспань, кракавяк, ночка, матлёт, зайчык, мікіта, грачанікі, козачка, шматлікія полькі. Узначальвае дадзенае аддзяленне школы даследчык, знаўца рэгіянальных традыцый Беларусі, аўтар шматлікіх манаграфій, прысвечаных нацыянальнаму танцу, выдатны танцор і педагог Мікалай Козенка. Спасылка „Чытаць далей" тут таксама дае магчымасць паглядзець, як танчаць у „Школе традыцыйнага мастацтва" яе выпускнікі.

Навучаць у дадзенай школе і кравецкаму рамяству. Гэтым навучальным працэсам кіруе Вольга Кашкурэвіч — мастачка, выкладчыца жывапісу, народных рамёстваў, удзельніца навукова-практычных канферэнцый па дэкаратыўна-прыкладному мастацтву, аўтарка шматлікіх калекцый беларускіх строяў. Іх, дарэчы, таксама можна паглядзець, прайшоўшы па адмысловай спасылцы.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

Дата з календара Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара Дата з календара

## 130 гадоў з дня нараджэння

# Юры Сабалеўскага

Беларускі палітычны дзеяч Юры Сабалеўскі нарадзіўся 24 красавіка 1889 г. у горадзе Стоўбцы. Паходзіў з сям'і дарожнага рабочага. Пасля сярэдняй школы ў 1910 г. скончыў землябровчыя курсы ў Коўне, працаваў землямерам, пакуль у 1915 г. не быў прызваны на службу ў расійскае войска. Пасля 1917 г. працаваў у земскіх установах заходніх паветаў Беларусі. У перыяд 1917-1919 гг. жыў у Мінску і праўдападобна ў гэты час яшчэ не даспеў да беларускага руху. Гэтыя гады біяграфіі Сабалеўскага маюць нямала загадак. Невыпадкова ў некаторых дакументах гэтага часу ён фігуруе пад дзіўным іменем „Грыгор". Да ліку тагачасных беларускіх нацыянальных дзеячаў-незалежнікаў залічваць Сабалеўскага няма падстаў. Гэта ўскосна пацвярджаецца тым, што ў яго друкаваных успамінах няма нейкіх падрабязнасцей як пра абвяшчэнне БНР, так і пра першыя месяцы яе развіцця. Юры Сабалеўскі апынуўся пазней у ліку людзей, забраных бальшавікамі ў Смаленск як закладнікі пры адступленні пад націскам польскіх войскаў летам 1919 года.

У 1922 г. Сабалеўскі абраны паслом польскага Сейма. Абраны туды быў не адразу. Першапачаткова вылучаўся ад Навагрудскай выбарчай акругі, але не змог перамагчы на выбарах. Менавіта ў гэты час Сабалеўскі далучыўся да беларускага руху, але яшчэ не меў даверу з боку іншых дзеячаў. Невыпадкова старшыня Беларускага цэнтральнага выбарчага камітэта Антон Луцкевіч палічыў патрэбным адразу ж пасля заканчэння выбараў 13 лістапада 1922 г. узяць ад Сабалеўскага пісьмовае абавязацельства, у якім той засведчыў, „што я поўнасцю згаджаюся з праграмай Беларускага Цэнтральнага Выбарнага Камітэта і бяру на сябе абавязак у Соймавай працы падпарадкоўвацца ўсім вымаганням Беларускага Соймавага Клуба". Можна сказаць, што Сабалеўскі папросту „выспяваў" як беларус. У 1924 г. ён увайшоў у Беларускую сялянска-работніцкую грамаду, пасля яе разгрому (1927) нелегальна выехаў у Гданьск. Дакладна вядома, што двойчы — у 1928 і 1939 г. ён арыштоўваўся польскімі ўладамі.

З прыходам у Заходнюю Беларусь войск Чырвонай Арміі Сабалеўскі працаваў на будоўлі. Арыштаваны органамі НКВД і зняволены ў турму ў Баранавічах. Уцёк з турмы ў час бамбардзіроўкі нямецкай авіяцыі ў чэрвені 1941 г. У перыяд фашысцкай акупацыі Беларусі займаў пасады бургамістра Стоўбцаў, Нясвіжа, Баранавіч. У гэты час стаў другім віцэпрэзідэнтам Беларускай Цэнтральнай Рады, узначальваў акруговы аддзел Беларускай народнай самапомачы ў Менску. Удзельнічаў у падрыхтоўцы і правядзенні Другога Усебеларускага кангрэса ў 1944 г. у Менску, быў старшынёй мандатнай камісіі.

Летам 1944 г. выехаў у Нямеччыну. У 1948-1950 гг. — адзін з рэдактараў газеты „Беларускае слова". З 1950 г. — сябра Агульнага беларускага саюза вайскоўцаў. З вясны 1950 г. жыў у ЗША, з 1951 г. — сябра Украінскай нацыянальнай рады, з 1952 г. — Беларускага нацыянальнага фонду, з кастрычніка 1955 г. — Камітэта незалежнай Беларусі. У 1957 г. вярнуўся і жыў у Германіі. Памёр Юры Сабалеўскі ні то 26, ні то 30 снежня 1957 г. пры нявысветленых абставінах на чыгуначнай станцыі Кірххайм – унтэр – Тэк. Паводле адной з версій ад сардэчнага прыступу. Пахаваны ў Мюнхене на могілках Фельдмохінг. Пакінуў пасля сябе ўспаміны.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**
Фота — мастацкі партрэт Анатоля Крывенкі

Рэдакцыя «Нівы» дзякуе ўсім нашым чытачам
і ўстановам якія павіншавалі нас
з Велікоднымі святамі.



**Велікодныя яйкі на стале ў Галіны Бірыцкай з Плянты Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета.**
Фота Янкі Целушэцкага

**Дарыюш ЖУКОЎСКІ**

* * *

Сёння ў сне я капаў хрэн
У нашым агародзе побач з хлявом.
Не памятаю толькі,
Ці я ўжо быў вышэйшым за рыдлёўку?
Я ўмеў знайсці яго і выкапаць,
Пазнаваў яго на зялёных лістах,
Я шукаў магічнага кораня,
На Вялікдзень
Каб Хрыстос мог поўнасцю ўваскрэснуць,
І ў нашым доме, і ў гарадоцкай царкве
Прасвятой Багародзіцы Дзевы Марыі,

— Царква не ацяпляецца і мае натуральную вентыляцыю, дзякуючы таму роспіс на сценах не паблек і не пацямнеў, — тлумачыць настаяцель царквы ў Гарадку,

Цяпер ужо ведаю з інтэрнэту:

*«Больш за тое, ён таксама валодае бактэрыястатычнымі ўласцівасцямі, што павышае імунітэт арганізма».*

## Аб чаромхаўскай культуры (7)

Ініцыятарам культурнага жыцця ў Чаромсе быў кіраўнік дома культуры «Калеяж» Мікалай Гарадкевіч. Яго правай рукою былі рады прафсаюзных арганізацый чыгуначных прадпрыемстваў. У траўні 1976 года ў выніку пагаднення на сцэне «Калеяжа» выступіў мастацкі калектыў польскіх грэкаў «Гэллен». Госці далі два канцэрты. Зала была запоўнена па апошняе месца. Каляровыя ўборы, цудоўная музыка Тэадаракіса, народныя танцы і песні заваражылі публіку. Канцэрт доўжыўся амаль дзве гадзіны і, калі прыйшоў час развітання, доўга не сціхалі бурныя воплескі ў знак прызнання. Аб выступленні грэкаў доўга гаварылася ў пасёлку.

У кастрычніку 1977 года Чаромху наведаў вядомы польскі асілак Станіслаў Лех. Дэманстрацыя сілы, спрыту і адвагі прайшла на пляцоўцы побач «Калеяжа». Асілак у час свайго выступу паказаў як рукамі ўтрымаць аўтамабіль «Жук», як парваць ланцугі і сагнуць штангу на галаве, як ляжаць пад праязджаючым па табе трактарам ці адной рукою падняць чалавека. Удзельнічаў я ў гэтым спектаклі і скажу праўду, не было тут ніякіх фокусаў і чорнай магіі. Хачу адзначыць, што патрэбныя для выступу прылады былі пазычаны ў вагонным дэпо, а штангу на галаве асілка гнулі самі гледачы.

На станцыі Чаромха ў рухова-гандлёвай службе актыўна дзейнічаў гуртак ЗСМП — Саюза сацыялістычнай польскай моладзі. Узначальваў яго Здзіслаў Младзяноўскі. Па ініцыятыве сябры Младзяноўскага і пры падтрымцы прафсаюзнай арганізацыі ў кастрычніку 1979 года ў рамках краязнаўча-турыстычнага адпачынку для членаў ЗСМП была арганізавана экскурсія па шляху Жэшаў — Ланцут — Санок — Кросна — Бяшчады. Для ўдзельнікаў экскурсіі Цэнтральная дырэкцыя ПКП у Варшаве прызначыла спецыяльны спальны вагон. Удзельнікі наведалі найбольшую ў Еўропе калекцыю нафтавых лямпаў у Кросне, каралеўскі замак і скансэн народнага будаўніцтва, таксама вялікую калекцыю ікон XIV-XVIII стагоддзяў у Саноку, старадаўні Пшэмысль з яго цікавай архітэктурай, затым месца ў Бяшчадах, дзе загінуў Караль Сьвярчэўскі. Экскурсаводам быў старшыня ЗСМП Здзіслаў Младзяноўскі.

Іншую форму адпачынку прынялі члены гуртка ЗСМП пры паравозным дэпо. У лютым 1979 года, на масленіцу, арганізавалі катанне на санках. Удзельнікі імпрэзы з-пад дома культуры «Калеяж» з гармонікам падаліся ў сяло Мядзвежыкі. Там развялі касцёр, з'елі бігас. Вясёлая кампанія пад звонкую музыку Вальдэмара Савіцкага на адвячорку з факеламі падалася ў Кузаву. Там у мясцовай святліцы арганізавалі з моладдзю супольную забаву. Гэта імпрэза была арганізавана пры фінансавай падтрымцы старшыні прафсаюзнай арганізацыі Юзэфа Дубковіча.

Вяртаючыся ўспамінамі да мінулага чаромхаўскай культуры варта прыкінуць некалькі слоў пра мясцовых музыкантаў. У шасцідзясятыя-васьмідзясятыя гады не было ў наваколлі Чаромхі прафесіянальных музычных калектываў. Вясковы «аркестр» гэта гармонік (акардэон), барабан і труба. У асноўным выступалі гарманіст з бубначом. У Чаромсе самым папулярным музыкантам быў Юзік Шыманяк, у Кузаве — Грыша Рэпка. Яны прыгожа ігралі ды спявалі, іх наймалі на забавы, вяселлі, хрысціны. У Кузаве апрача Грышы Рэпкі часта ігралі маладыя музыканты Вася Раманчук, Янка Саўчук ды Мікалай Кандрацюк з Гайкаў, які заляцаўся да мясцовай дзяўчыны. У дзевяностых гадах Чаромху пачалі наведваць шматлікія калектывы, якія выступалі на чыгуначнай сцэне ў рамках арганізаваных народных фэстаў. Гэта было сапраўды народнае свята.

(працяг будзе)

**Уладзімір СІДАРУК**

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — пагаворку.

1. з кіслародам у паветры = 26 _ 6 _ 22 _ 18 _;
2. Лаўрэнцій, загадчык НКВД (1899-1953) = 27 _ 17 _ 10 _ 11 _ 12 _;
3. храбрэц, які здзейсніў подзвіг = 28 _ 33 _ 29 _ 19 _ 20 _;
4. еўраафрыканская музыка з удзелам духавых і ударных інструментаў = 14 _ 15 _ 16 _ 31 _;
5. вузкая шчыліна паміж брусамі = 9 _ 8 _ 13 _;
6. вадкасць, якая выдзяляецца падскурнымі залозамі = 4 _ 3 _ 2 _;
7. беспарадак = 1 _ 32 _ 5 _ 23 _;
8. цынічны чалавек = 24 _ 30 _ 7 _ 25 _ 21 _.

(ш)

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 13 нумара**

Алегорыя, апека, Каін, кум, шар, ява.

Рашэнне: **Мурашка невялікая, а горы капае**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

## 28.04 — 04.05

**(22.03. — 20.04.)** Не пакіне цябе кемнасць да інтарэсаў. Спрыт, праніклівасць, хуткасць вырашэнняў дазволяць табе памножыць маёмасць! Паправіцца твой рэйтынг у фірме. Падлячы свой пазваночнік масажамі, можа, экзатычнымі. Прыліў грошай. Удадуцца модавыя і касметычныя эксперыменты. Вялікая папулярнасць (аж да 14.05.!).

**(21.04.—21.05.)** Можаш выстартаваць з планамі, якія ўжо адклаў на паліцу. У пары спакойна паразмаўляйце і проста пабудзьце разам, без чаканняў і сур'ёзных прычын. Трымай язык за зубамі — адна заўвага можа цябе шмат каштаваць! Адкрыюцца дзверы, якія для цябе былі дасюль зачыненыя. Меркурый пакажа, дзе ёсць грошы (аж да 20.05.!). Набярэшся бляску, Сонца дадасць табе красы і сілы (аж да 20.05.!).

**(22.05. — 22.06.)** Заззяеш незвычайнай інтэлігентнасцю і рэфлексам. Будзеш лавіць усё на ляту, вельмі спраўна пойдзе табе навука. Знойдзеш многа часу для сяброў. Не гуляй у інтрыгі і плёткі. Знойдзеш шчасце — Венера спрыяе любоўным прыгодам (аж да 15.05.). Аднаўляй старыя знаёмствы і наладжвай новыя. Смела запісвайся на курсы, змагайся за датацыі. Прыліў грошай.

**(23.06. — 23.07.)** Будзеш мець шмат часу і з ахвотай кінешся ў вір кампанейскага жыцця. Пашчыльніш знаёмства з кімсьці, хто стане для цябе яшчэ важнейшым. Паслухай парад разумных кабет. Уся вясна будзе працавітая і інтэнсіўная, ды хопіць табе сілы і будзеш мець падтрымку высокапастаўленых людзей (летам ад гэтага будзеш чэрпаць прыбыткі). Прыліў грошай аж да 20.05.! Але зрабі медабследаванні, медытуй.

**(24.07. — 23.08.)** Рэалізуй амбітныя планы. Можаш ставіць свае патрабаванні. Знаёмыя не падвядуць цябе і падтрымаюць нават у цяжкіх сітуацыях. Цяжкавата з дыетай, дык займіся спортам. Лаві гарачыя нагоды! Будзеш вельмі хутка вучыцца, прыстасоўвацца да новых умоў. Прысьпяшэнне тваёй кар'еры.

**(24.08. — 23.09.)** Шчаслівыя выпадкі, поспехі ў фінансах і ў падарожжах (хоць зважай на падарожжы 27 і 28.04.; тады можаш і абразіцца на кагосьці надоўга). Могуць дакучаць табе суставы, мігрэна, страўнік. Выйдзеш з фінансавай ямкі, але не бярыся за справы, якія прэзентуюцца цудоўна, але могуць цябе выматаць з сілы. Прыліў грошай аж да 20.05.

**(24.09. — 23.10.)** Чым менш будзеш камбінаваць, тым больш здабудзеш. Добры час на генеральныя парадкі, рамонт, перасяленне, аднаўленне кантактаў з замежнымі сябрамі. Інвестуючы ў азарт, можаш разлічваць на страты. Сінглы могуць закахацца! Венера спрыяе каханню аж да 14.05.! Кар'ера будзе развівацца нават без твайго заангажавання. Наладзіш важныя пакты і разумна заінвестуеш. На працы не дапускай да недаробак. Будзеш зарабляць большыя грошы.

**(24.10. — 22.11.)** Усе твае справы памалу пасоўваюцца наперад. Не распамятвай колішніх параз. Ажыўленне ў кампанейскіх планах. Нечаканыя магчымасці, аб якіх і не марыў. Але будзе даволі асоб, якія цябе схочуць выкарыстаць. Вялікае шчасце ў пачуццях аж да 20.05.! Спрыяе табе лёс. Не праваронь ніякай нагоды, каб парабіць парадкі ў справах ва ўстановах. Правер важныя паперы. Зоркі памогуць табе пры кампенсацыях. Прыліў грошай аж да 20.05.

**(23.11. — 22.12.)** Аформіш кожную справу, пераканаеш усіх да сваіх поглядаў. На працы мілая атмасфера. Новапазнаныя людзі. Не спакушайся на інвестыцыі, якія не прынясуць табе прыбытку. Разагрэюцца твае жарсці аж да 14.05. Маеш шанц на вялікі поспех і многа зарабіць. Шанцы на новую пасаду, папраўу ўмоў на працы. Вучыся мовам, здабывай сертыфікаты. Прыліў грошай. Набярэш бляску ў выглядзе (да 14.05.).

**(23.12. — 20.01.)** Добры час на падарожжы, вырашэнне праблем, аб якіх ведаеш, што з імі можаш не справіцца. Лічы грошы, аплачвай рахункі, аддавай даўгі, купляй з калькулятарам. На працы можаш адарвацца ад тых асоб, хто цябе тармазіў. Шукай разумных дарадчыкаў і памочнікаў. Работа, якая прынясе табе прэстыж і грошы (аж да 20.05.).

**(21.01. — 19.02.)** Вельмі трапныя вырашэнні, адначасова ў розных справах. Пільнуй кашалька! Не забывай пра свае страўнік ды кішкі! Прыйдуць змены, якіх ты чакаў. Можаш рабіць штосьці больш файнага і лепш платнага, больш грошай. Будзеш жыць актыўней, паставіш на развой сваіх талентаў і ўмеласцей. Будзеш мацнейшы і прыгожы.

**(20.02. — 21.03.)** Памятай аб каханні! Салодкія хвіліны ў пары. У прафесіі адны поспехі, паправа ў фінансах. Дараджвай і памагай іншым. Пашчасціцца табе і ў дробных, і ў сур'ёзных справах. Радзей параўноўвай сябе да іншых. Уся бяда бярэцца з таго, што адчуваеш сябе не надта добрым, або іншыя на тваім фоне горшымі. Дазволь іншым ісці сваёй дарогай!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714
**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# Сіцылія — краіна кактусаў і здагадак (ч.2)



У Таарміне лёгка забыцца пра цэлы свет. Мясціну не дарма называюць жамчужынай Сіцыліі. Пра гэты старажытны горад на скале Гётэ выказаўся такімі вось словамі: *тут, у руках Бога пераніzаліся чароўнасць прыроды і мастацтва.*

Як сведчаць старажытныя руіны, мастацтва заўсёды было тут у цане і ў пашане. У Таарміне захаваўся антычны тэатр, які лічаць самым прыгожым у Італіі. Яго непаўторнасць у жывым, стыхійным мастацкім афармленні. За сцэнай распасціраюцца горы, мора і заснежаны конус Этны. У залежнасці ад надвор'я ў краявідзе перамяшчаюцца абрысы гор і мяняюцца колеры. Тэатр, як і тысячы гадоў назад, далей дзейсны і адкрыты для публікі. У летнія вечары пры святле факелаў на сцэне ставяць класічныя п'есы і гучаць рок-канцэрты сусветных зорак...

Зараз, па-за сезонам, турысты цягнуць у тэатр, каб зрабіць фотаздымкі руін з міфічным даляглядам...

Падобных атракцыёнаў тут процьма.

Таарміну лічаць яшчэ курортнай зонай для люкс-турыстаў і эксклюзіўных пакупак. Усе даведнікі заахвочваюць прыехаць сюды хоць на тры-чатыры гадзіны. Нам, вядома, таксама хацелася хоць на міг акунуцца з галавой у бліскучым гламуры.

* * *

Ужо сам уезд у горад, які распасціраецца ад мора па вяршыні стромкіх скал, паскорвае біццё сэрца. Рэйсавы аўтобус падымаецца крутой, аднапалоснай дарогай на самы верх. Уецца асцярожна і коўзка як вуж, тактоўна саступаючы іншым на паваротах. Страшна глядзець уніз і яшчэ страшней скаціцца з гары. На скалах размножыліся калоніі калючых апунцый. Гэтая расліна, разам з лімоннымі і мандарынавымі гаямі — неад'емны матыў сіцылійскага краявіду.

Даязджаем на самую гару, адкуль ужо некалькі крокаў на *Corso Umberto*, галоўную вуліцу Таарміны. Нягледзячы на раннюю гадзіну, пануе ажыўлены рух. Маем непаўторную нагоду паназіраць за жыццём мясцовых. Перад тым як пойдуць на працу многія прысядуць у кавярні, каб папіць капучына з салодкім пячэннем. Пасля абеду сіцылійцы не спажываюць кавы з малаком, затое п'юць у празмернай колькасці смалістае эспрэса, абавязкова з цукрам. Да століка падыходзяць сябры і суседзі, мужчыны між сабой вітаюцца падвойным пацалункам. З ходу заводзяць гутарку пра надвор'е, спорт. Усё жартуюць. Гэта падказка, што ў горадзе добра спіцца. Апошняя заўвага зусім на месцы. У Таарміне шмат будынкаў, якія памятаюць часы сярэднявечча. Над горадам пануе замак – крэпасць з XII стагоддзя, збудаваны нарманамі. Хоць тут не любяць аглядацца назад.

— Вы кажаце, у нас прыгожа, — пачынае афіцыянт Ніколя, — гэта праўда, праўда. Але ж усе маладыя адсюль з'язджаюць... На поўнач, у Мілан або ў Цюрых. Бо там свет, іншыя магчымасці. А тут што — адны турысты і рэстараны...

Скупы намёк крышку азмрочвае першае захапленне горадам, але гэта нармальна. У летні сезон, калі ад рання да рання праз горад пераліваецца паток турыстаў, складана прагуляцца з сабакам, зрабіць неабходныя пакупкі ці прысесці, як сёння з сябрамі, у кавярні.

* * *

Усе дарогі ў горадзе вядуць на пляц IX Красавіка з касцёлам св. Язэпа ў стылі іспанскага барока. У халоднай, мармуровай сярэдзіне не было жывой душы. Усю ўвагу ў гэтым закутку засяроджылі мы пры панарамнай тэрасе з відам на







Іанічнае мора і горад. Дзесьці ў марскім блакіце знаходзілася легендарная *Isola Bella* — выспа-запаведнік. На востраве знаходзяцца салянкавыя (хларыдныя) тэрмы *Giardini Naxos*. Месца вядомае з 735 года да нашай эры.

Таарміна на тры стагоддзі малодшая ад згаданых тэрмаў. Горад заснавалі ўцекачы з Наксас, якое наехаў Дыянізас І, тыран Сіракуз. Дамінаванне грэкаў цягнулася ажно да X стагоддзя, пакуль горад адбілі і ўзялі на два стагоддзі арабскія захопнікі. Іх замянілі ў сваю чаргу нарманы, пасля якіх прыйшлі іншыя захопнікі і ўладары. Пляц у гонар IX Красавіка — знакавая дата для італьянцаў, менавіта 9 красавіка 1860 года ўспыхнула агульнароднае паўстанне, ад якога пайшоў незалежніцкі зрух у краіне.

Цікава, што сіцылійцы не разбурылі слядоў панавання чужых імперый і не прыбралі іх культурных здабыткаў. У вузенькім, гарадскім праходзе, якраз за пляцам з панарамай, агаломшыў мяне знаёмы вобраз. На сцяне красавалася візантыйская фрэска з іконай Божай Маці. Рэканструкцыя напамінала пра жывапісную традыцыю, якая першапачаткова панавала ў хрысціянскіх храмах Сіцыліі. Касцёлы з арыгінальным візантыйскім роспісам — своеасаблівы брэнд краіны. Сіцылійцы ганарацца кафедрай у Палерма, з візантыйскімі фрэскамі, якіх дастойнасць і дасканаласць нельга параўнаць з нічым на свеце. Ужо за гэта думаюць пра іх з цеплынёй і пашанай...

* * *

— І паглядзіце, няма тут нічога брыдкага, недаробленага, — здзіўляліся мы таварам, якія прапанавалі гандляры элегантных буцікаў і магазінаў. Значная частка магазінаў належала тут вядомым сусветным маркам адзення, абутку ці касметыкі. Добра раз у год наведаць такія люкс-крамы, каб мець нейкае ўяўленне пра моду і сезонныя навінкі.

Праўда, сярод сучаснага гламуру мне хацелася думаць пра другую палову XIX стагоддзя. Тады ў Таарміну прыязджалі адпачываць каралеўскія сем'і, еўрапейскія арыстакраты, сусветнай вядомасці літаратары і мастакі. Узамен за натхненне і хвіліны шчасця дарылі гораду каштоўныя падарункі. Так менавіта ўзнік парк *Villa Comunale* — райскі агарод з экзатычнай расліннасцю і чароўнымі даляглядамі, спансараваны англійскай арыстакраткай. У цяні квітнеючых дрэў адпачывалі мясцовыя пенсіянеры.

Іншы сюрпрыз чакаў на *Piazza Duomo*. Суровы гмах, побач якога красаваўся фантан з разьбой коней, наклікалі цеплыню ў сэрцы. Гэта быў касцёл святога Міколы Цудатворца, пабудаваны па ўзору аднайменнага касцёла з Бары. Будоўля ўзведзена ў XIII стагоддзі, у тры разы меншых памераў, са столлю падмацаванай дубовымі дылямі. У пустой, халоднай сярэдзіне красаваліся дзве вывы святога ў візантыйскім антуражы. Цікава, што таармінцы завуць яго Міколам з Бары...

Ды на Сіцыліі ўсё раўняюць да кантынентальнай часткі Італіі.

Вось, пасля эксклюзіўнай экскурсіі вечарам мы зноў вярнуліся ў «Мілан поўдня», як называюць тут прадпрымальную і гандлёвую Катанію. І адразу пайшлі на абед, які падыходзіў па кішэні.

(працяг будзе)

Фота і тэкст **Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960 17